Песні! Вы з байцамі стройцеся да ладу
І хадзіце разам з імі крок у крок.
Немца так біць трэба: цэлься ў сэрца гаду.
А на мушку ўзяўшы, апускай курок.
Дык ляціце, песні, песні-арляняты,
Вам наказ гарачы з сэрца я даю:
Будзьце куляй, бомбай, мінай і гранатай,
І штыком і сілай для байца ў баю!
І павязкай мяккай у байца на ране.
І крыніцай чыстай, як захоча піць,
Ласкай і спакоем, спачываць як стане,
Словам — тым, чым то́лькі песня можа быць.
Будзе час, мы зможам ворага.
                                        Радзіма
Ветла прывітае, мае песні, вас,
Як байцоў за волю, вас прыхільна прыме,
Што ідуць дахаты у спакойны час».

*1943 г.*

## БЕЛАРУСІ

Любая Радзіма,
Родная ты маці!
Не дай ты бандытам
Сябе абдзіраці.
Ні ў чым хай не мае
Ў нас вораг карысці,
Баіцца хай дрэваў,
Баіцца хай лісцяў.
Хай смерць яму суліць
Прыгорачак кожны,
Знішчае хай гада
І куст прыдарожны.
Хай з нашых палеткаў
Сабранае жыта
Шрапнелямі стане
Для подлых бандытаў.
Хай яблык і груша
Ад нашага саду
Ўзрываецца мінай
У ворага-гада!
Празрыстыя хвалі
Нявіннай крыніцы
Пачнуць хай для фрыцаў
Атрутай сачыцца,
Каб кожная бульба
Ім стала гранатай
І дзотам нязможным
Калгасная хата.
Губіце, знішчайце
Фашыста-заразу,
Каб кончыў нам шкодзіць
Навекі і зразу;
Каб болей не грабіў,
Навек каб быў сыты,—
На смерць забівайце
Фашыста-бандыта!

*1943 г.*

## ТАМ, ДЗЕ СВІСЛАЧЫ СВЕТЛЫЯ ХВАЛІ...

Там, дзе Свіслачы светлыя хвалі плывуць,
Адбіваючы яснае неба,
Дзе туманаў малочная сцелецца муць,
Дзе ж гнецца палетак ад хлеба,
Дзе схіляюцца вербы над соннай ракой,
Тонкім веццем згінаюцца лозы,
І пясок аж звініць пад імклівай нагой,
І на ўзгорку пасталі бярозы,—
Там дзяцінства майго праміналі гады
У садочку, пры бацькаўскай хаце,
І глядзелася ў люстра празрыстай вады
Беларусь — мая родная маці...
Помню пошумы сумныя пушчы глухой,
А над ёй неба яснага просінь,
Помню песню жаўронка над галай раллёй
І сярэбраны звон на пакосе.
Помню росы густыя і белы туман
І квяцісты дыван сенажаці,
Белай яблыні ў полі пахілены стан,
Дзе я жыта вучылася жаці.
Помню мяты духмяны хвалюючы пах
І калючае сцерне іржышча,
Поўных жменяў над полем жытнёвым
узмах.
Ажно вецер над постаццю свішча...
Помню, пелі жніво...
Пошчак плыў, ракатаў,
І ляцелі вакол адгалоскі,
Падпявалі нам долы, і бор падпяваў,
І, стаіўшыся, слухалі вёскі.
А чуць вечар,— усе мы да рэчкі ішлі,
Ў Свіслач родную нашу купацца...
Як русалкі, дзяўчаты на хвалях плылі,
Месяц брыў іх красой любавацца...
То ён косы дзяўчат на вадзе залаціў,
То ўплятаўся у тонкую ціну,
Калыхаўся у хвалях, над хвалямі плыў,
Блытаў промняў сваіх павуціну.
Быццам гэта учора было,

Водар траў нават чую у полі,
Саграваe мяне таго сонца цяпло
І дзявочая шчасная доля...
Кожны кусцік у лесе знаёмы там быў,
Дрэўца, камень і крыж на расстаі,
І хваль Свіслачы буйны вясною разліў,
І птушыныя спевы у маі...
І той родны, мне мілы, прыгожы куток
Цяпер немец пракляты катуе,
Быццам сэрца майго адарвалі кусок,—
Боль мне гэта прыносіць такую,
Вас, байцы, край мой просіць, Радзіма мая,
Моліць Свіслач слязістаю хваляй:
Забівайце бандытаў! Знішчайце ў баях,
Каб радзімай зямлі не таптаглі!

*1943 г.*

## ТАНКІ

Паўзуць сцяной...
Іх не адзін, не два...
Паўзуць на нас, і скрогат вушы рэжа,
Варочаюць заплюшчаныя вежы,
Счарнеў за імі траў дыван.
Паўзуць, як пошасць, як спруты, як гады,
Агнём плюецца іх праклятый зеў,
І валяць з ходу трупы нашых дрэў,
І рушаць з ходу нашых хат грамады.
А мы маўчым.
Чакаем толькі знаку,
Каб збіць імпэт іх залпавым агнём.
Яны вядуць псіхічную атаку,
Мы іх фізічна і прыцэльна б'ём.
Во, ўстаў адзін,
другі — абходзіць міма...
Агонь па ім!
І ён стаіць, гарыць,
І, як краты з падземнае нары,
Вылазяць фрыцы з полымя і дыму.
Насустрач ім крылом махнула смерць:
Наш кулямёт ім палка справа строча,
Смяецца ён, ён радасна стукоча,
Бо дачакаў пары сваёй цяпер.
І сцелюцца мышыныя шынелі
На танкамі стаптаную зямлю,
І льецца кроў чужынцаў на раллю,
Якой яны валодаць захацелі.
Хапае ім зямлі! Набіты рот,
Засыпаны зямлёй сляпыя вочы,
А кулямёт ад радасці рагоча
І косіць іх, як спелы ачарот.

*1943 г.*

## РАССТАННЕ

Б'е капытам конь гарачы,
А дзяўчына горка плача,
Да грудзей прыпала.
Змыць бы з сэрца гэту змору,
Расставання боль і гора,
Толькі слёз замала.

Груганы над полем крачуць,
Пікі гнуцца, коні скачуць,
Стогнуць нават коні.
А над стэпам вецер вые:
Наламаюць катам шыі
Казакі сягоння.

Б'юцца казакі-саколы,
Б'юцца слаўна, а наўкола
Кроўю сочаць травы,
І бяроза роніць косы,
А на сонцы слёзы-росы
Свецяцца крывава.

Ты ляці, ляці, саколе,
Здабываць радзіме волю,
Ў бой ляці, казача.
Конь твой б'е зямлю нагою,
Бой грукоча за гарою,
А дзяўчына плача.

На каня ускочыў смела,
І дарога загудзела
Звонам збройнай сталі.
Пыл узняўся над зямлёю,
А далёка дзесь да бою
Трубы заігралі.

Завіхрыўся стэп шырокі,
Замуціўся Днепр глыбокі,
Загудзелі дрэвы.
Неба дымам зацягнула,

Рвецца даль агнёвым гулам,
Куль гарачых спевам.
Ты гудзі смялей, віхура,
Ты палі маланкай, бура,
Бура-завіруха.
Абатры, дзяўчына, слёзы,
Музыку вялікай згрозы,
Бою гімн паслухай.

*1943 г.*

## СНАЙПЕР

Зрокам вострым, нібы штык сталёвы,
Ён праніжа пень і куст яловы,
Ямку, ўзгорак і узмёту скібы,
Цень зламаны збуранай сялібы
І лугоў знявечаныя гоні,
Дзе не косы звешкаюць сягоння...
Выскачыць шарак з-пад роўнай межы.
Чорны стрыж у лёце зрок прарэжа,
Ён усё прыкмеціць, ўсё убачыць,
Сціслай памяццю усё адзначыць.
Звера паляўнічы так не сочыць.
Не гараць такою прагай вочы,
Не гарыць душа такою смагай
Павялічыць лік у дня працягу.
У засадзе доўга час праходзіць.
Снайпер з месца тайнага не сходзіць,
Замаскованы, умела скрыты,
Сочыць ён за срэбнай хваляй жыта.
І за плынню гаварлівай рэчкі,
І ружжо яго не дасць асечкі.
Раптам, ледзь прыкметна, з таго боку,
Штось чужое мільганула ў воку,
Замаячыў там шынель мышыны
І замёр у ценю пад асінай.
Мушку ён навёў на цэль спакойна:
«Згінь ад зброі ты, прыйшоўшы збройна...»
Мы гасцей на Беларусі любім,
Іх частуем, ласкаю галубім,
І ніхто нідзе на цэлым свеце
Госця так не прыме, не прывеціць.
Госць у дом — у доме зразу свята,
Пачастунак ладзіцца багаты,
Гаспадыня ў печы паліць спешна,
Напячэ бліноў, спячэ яешню,
Верашчака засквярчыць і тлуста
Каўбаса гарачая з капустай.
Гаспадар зірне у шафу шпарка,
І гарэлкай заіскрыцца чарка...
Старадзедаўскім сваім звычаем
Мы гасцей ад сэрца прывячаем.

Ну, а той, што к нам прыходзіць збройна,
Марыць хто раз'юшана аб войнах,
Хто спакой святы зямлі парушыў,
Вытрасем з яго мы цела й душу...
Вось застыў наш снайпер нерухома,—
Гаспадар у беларускім доме:
Ён гасцей нязваных сустракае,
Куляй іх гарачай прывячае.

*1944 г.*

## У ШПІТАЛІ

Трызніш ты трывожна ў цяжкім, палкім сне,
Быццам ты на фронце, быццам на вайне.
То даеш каманду, як агонь вясці,
То ў атаку танкі мкнешся павясці...
Смага паліць вусны, паліць, як агонь.
Ты крычыш: «Каня мне!»
Дзе ён, гэты конь?
Лёд я асцярожна к галаве кладу.
Лыжкай уліваю ў рот табе ваду,
Абціраю цела волкім ручніком,
Сціхнеш ты і хвілю спіш спакойным сном.
Я з табой, любімы, як двайнік, як цень,
Пры тваёй пасцелі ўночы і удзень;
Чую апалёны сэрца твайго стук,
Чую жар пякучы смуглых тваіх рук.
І, хоць сілы таюць ў цяжкай барацьбе,
Бой вяду гарачы з доляй за цябе.
Часам мне здаецца, настае канец.
Страшыць ран глыбокіх печаны рубец...
Боль зацісне грудзі, сэрца скалыхне,
Ты ж дагэтуль нават не пазнаў мяне!
Ты не чуеш кроку лёгкіх маіх ног,
Слоў не чуеш цёплых з той пары, як лёг
На пасцелі гэтай ў цяжкім забыцці,
І не змог ні разу у прытом прыйсці...
Мне надзея сёння засвяціла зноў:
Для цябе узялі, любы, маю кроў,
Сілай неўміручай, сілай пачуцця
Кроў мая прабудзіць волю да жыцця!
Жыць ты будзеш, мілы! Жыць павінен ты!
Строім мы упарта да жыцця масты.
Мост высокі, стромкі...
Не глядзі ў ваду!
Абапрыся моцна, я цябе вяду...
Хай сабе пад мостам закіпае жвір,
Хай кругавароццем пеніць чорны вір,
Ты глядзі на сонца,— ясна з вышыні
Лье яно праменні...
Дык глыбей ўздыхні!
І жыві, любімы, будзем разам сніць

Аб жыцці, аб шчасці...
Ён спакойна спіць.
Грудзі дышуць роўна...
Гэта мая кроў
Прынясла збаўленне і мая любоў...
На зялёнай коўдры волкая далонь,
Я тулю к ёй вусны, нахіляю скронь
І баюся верыць, а здаецца мне,
Што прыйшло здароўе ў гэтым ціхім сне.

*1944 г.*

## НАД ДОНАМ

Стэп кавыль калыша,
Ціха шэпчуць травы.
Дон трывожна дыша
Хваляю крывавай.
Бой пранёсся бокам
З лязгам сілы збройнай,
Ты, пад гром і рокат,
Спіш сабе спакойна.
Мякка тваё ложа
Усцялілі травы,
Сокал мой прыгожы,
Стройны, кучаравы.
Шэпчуцца у стэпе
Кавылі густыя,
Ветрык мякка трэпле
Завіткі крутыя.
Горка, горка дзесьці,
Цяжка хтось заплача,
Калі дойдуць весці
Аб табе, юнача.
Сон твой беспрабудны,
Сон твой бестрывожны,
Разбудзіць мне трудна,
Разбудзіць няможна...
Сэрца сціпна б'ецца,
Боль сціскае грудзі.
Ты ж чужы, здаецца?
Хто ж радней мне будзе?

*1944 г.*

## МІНСК 1944 ГОДА

Ён мне часта ноччу сніцца,
Калі мрок зямлю атуліць,
Горад мой, мая сталіца
З лабірынтам цёмных вуліц.
Мур пусты... Акон прарэхі,
Скрозь разваліны, руіны,
Раздаецца гулка рэха
У будыніне пустыннай.
Ўзыдзе месяц. Карагоды
Сцішным колам водзяць цені.
На пустыя агароды
Сее ноч свае праменні.
Тут палетак зааралі
Не плугамі, не лапатай:
Бомбы плошчы раздзіралі,
Зруйнавалі бомбы хаты.
Дом устаў з прагнутым дахам,
Ў вокнах чорных цемень ночы,
Жудасна скрыгочa бляхай,
Аканіцамі стукоча...
Ён мне часта ноччу сніцца
Ў лабірынце цёмных вуліц,
Горад мой, мая сталіца,
Калі ноч яго атуліць.
За знішчэнне, за рабунак
Мы адпомсцілі фашыстам,
Мы звялі з імі рахунак,—
Катаў знішчылі дачыста.
Мы адпомсцім ім найлепей,
Калі ўстане горад новы,
Калі ён ім зрок асляпіць
Стройнай веліччу будовы.
Мой народ! Размах твой творчы
Ўвесь аддай сваёй сталіцы,
Каб зайздросных бралі корчы,
Як у сне ён ім прысніцца,
Хай загіне гад навекі
Ад бяссілля, ад зайздрасці,
След яго хай змыюць рэкі.
А зямля засыпле косці.

Не змыкай, народ мой, вочы,
Моцна стой на варце міру!
. . . . . . . . . . . . .
Дзесьці гулка сталь лязгоча
І маю трывожыць ліру.

*1944 г.*

## ВОСЕНЬ

Сонца промні ў лісце запляло.
Нерухомы ў залатым цвіценні
Лес струменіць сумнае святло.
І на небе — хмуры сум асенні.
Дождж{ы}к нудны мжыць праз сіта хмар,
Ўдаль лятуць празрыстыя аблокі.
Аб вясне прыгожай і далёкай
Ціха сніць узораны папар.

*1944 г.*

## МЯЦЕЛІЦА

Прынікла да мутнага шкла у акне,
Заціхла...
А погляд змяіны.
— Чаго ж ты не спіш? — шалясціць да
мяне.—
Аб мужу смуткуеш ці сыну?
Мяцеліца б'ецца, грукоча ў акно,
Мільгае ўсё тварам бялявым.
— Была я за Донам і белым сукном
Там след засцілала крывавы...
Дон сонны ляжыць, закаваны у бель,
Плынь глуха пад лёдам нуртуе,
Я мужу твайму засцілала пасцель,
Ён спіць і нічога не чуе...
У снежнай задуме задонавы стэп,
А ў стэпе дзе-недзе — станіцы,
Вясной там цвіце залаты кураслеп,
Бярозкі стаяць ля крыніцы.
Там дрэмле твой Янка,
Твой муж дарагі,
Фашысцкаю куляй забіты,
Над ім я круціла ў завею снягі,
Ён спіць, маёй коўдрай накрыты.
Далёка лязгоча, лютуючы, бой,
Сталь косці варожы друзгоча,
Снег ціха шуршыць над яго галавой,
Як быццам збудзіць яго хоча.
Сябры нясуць помсту за друга свайго,
Балюча ім гэта утрата,
А ты не убачыш, нябога, яго,
Не прыйдзе ён болей дахаты...

Ізноў да акна прыпадае, глядзіць,
Як быццам штосьці выпытаць хоча...
Мне сэрца ад болю зайшлося, гарыць,
Гараць перасохшыя вочы.
Браты мае родныя! Там, на вайне,
Знішчайце без жалю забойцаў!
За боль, што на сэрцы гарыць у мяне,
Вы сілу удару патройце.

*1944 г.*

## КУПАЛУ

Жывым любіла, дружа, я цябе,
Жывым цябе я толькі ўспамінаю.
І вось таму не ў смутку, не ў жальбе,
А ў песнях я сваіх цябе вітаю.
Раскрыю кніжку, і нясе мяне
Паток гарачы музыкі і слова,
Настрэчу сонцу, кветкам і вясне,
Дзе бор шуміць, дзе шалясцяць дубровы...
Наш край — і ты...
Скажу вось: Беларусь,
У гэтым слове мне гучыць: Купала.
Ды так гучыць, аж я сама дзіўлюсь,
Як быццам разам словы я сказала.
Мая Радзіма і яе пясняр —
Імён супольнасць і супольнасць долі:
Бяды цяжкой накінуўся цяжар,
Ды вы ў бядзе не рынеце ніколі!
Жыць будзе край,
Купала будзе жыць!
Для Беларусі блізка час свабоды,
Купалы песня зноў там зазвініць,
Дзе Днепр сівы паважна коціць воды.
Мая Радзіма! Блізка волі час,
Ідзі да перамогі цвёрдым крокам,
Бо промень волі над табой не згас,
Прыцьміўся ён на хвілю толькі мрокам.

*1944 г.*

## БЕЛАРУСІ

Ты дала мне жыццё, удыхнула мне сілу у грудзі;
Мне з табою ніколі ні сумна, ні цяжка не будзе,
Бо жыву я цяпер тваіх дум жыватворчаю сілай,
Што ўліла ты мне ў сэрца...
Ты песні мае разбудзіла,
Чую я на сабе цеплыню тваёй матчынай ласкі,
Мая родная, добрая, сон мой з дзіцячае казкі.
Вось табе маё сэрца, мой розум, і праца, і песня,
Веру, думкі крылатыя новым святлом ты абвесніш.
Жыць хачу я табой, для цябе, наша родная маці,
Дык прымі ж ты мяне ў сваёй светлай, у радаснай хаце!

Поле роднае вокал.
Збіраюцца з выраю птушкі.
Лёг мой шлях да цябе
шаўкавістай, шырокай істужкай.
Тут квітнеюць твае, творчай працай ўзараныя гоні...
Хай знайду я свой лёс у тваім працавітым сягонні.

*1944 г.*



Сын мой маленькі спіць у калысцы,
Песні ніжу я — нізку па нізцы,
Песні малому сыну спяваю:
Птушкі паснулі ў зялёным гаю,
Спі, мой сыночак, спі ты спакойна,
Вырасцеш, будзеш, як топаль, стройны,
Дзесьці сягоння ваююць людзі...
Ты шчаслівейшым на свеце будзеш!
Татка твой сёння на ратным полі,
Б'ецца за шчасце тваё, за волю,
Б'ецца за мір ён! Вечная згода,
Шчасце ўсясвету, шчасце народам...
Будзеш расці ты, сынок, свабодным,
На беларускай зямельцы роднай,
Будзеш расці ты арлёнкам вольным,
Смелым, прыгожым, рупным і здольным.
Я над калыскай спяваю песні,
А сэрца думкі цісн уць балесна...
Стрываць ад болю не маю сілы,—
Доўга не піша тата наш мілы...
Зоркі паснулі пад коўдрай хмарак.
Хай табе сонца сніцца у марах!
Ты ўсміхнуўся праз сон да маці,
Аж пасвятлела ў нашай хаце.
Спі, мой сыночак! Маме не спіцца.
Ёй твая доля наяве сніцца.
Вырасцеш, будзеш хадзіць у школу
Такі прыгожы, такі вясёлы...
Потым — сынок мой будзе пілотам,
Вадзіць ён будзе увысь самалёты...
А я ў роднай, вось гэтай хаце,
Буду з палётаў яго чакаці.
Ён шумна увойдзе, дзверы адчыніць,
Пілотку спрытна на лаўку скіне,
І сэрца поўна адчуе шчасце —
Як сын мой, лётчык абніме маці.

*1944 г.*

## СПЯВАЙ, ДЗЯЎЧЫНА!

Спявай, дзяўчына! Пад гэту песню
Мне аб радзіме сняцца спы.
Мне крышку сумна, крыху балесне,—
Як быццам чую я шум лясны...
Як бы у нашым бары сасновым
Я чую спеўны праніклы шум...
Схіляюць сосны свае галовы,
А воран крача над імі: «Крум...»
На сінім небе плывуць аблокі,
Як стая белых лебядзей,
А колер неба такі глыбокі,
У нас такі ён — і больш нідзе.
Смалісты водар мне льецца ў грудзі,
Як мёд,— яго бы, здаецца, піць,
Далёка дзесьці гамоняць людзі,
І ціха дзесьці ручай шуміць...
Спявай, дзяўчына! Маёй Радзімы
Абраз чароўны сніцца мне;
Навала гора праходзіць міма,
Свабодна скора яна ўздыхне.
Праз гушчу бою, агню і дыму
На шлях шырокі ідзе яна...
Над скатаванай маёй Радзімай
Штандар свабоды ўзнімі, вясна!..

*1944 г.*

## ДЗВЕ БЯРОЗКІ

Бярозка мая белакрылая,
Якая ж ты, сонейка, мілая!
Спускаеш пушыстыя веццi
I сінімі іскрамі свеціш.
Глядзіць маладзік, усміхаецца,
К галоўцы курчавай схіляецца
I вісне бліскучай каронай
Над беллю тваёй заручонай.
А веццi уніз паспусканыя,
Сярэбранай рызай убраныя,
Нязвычна і ціха сягоння
Шклянымі званочкамі звоняць.
Бярозка мая белакрылая,
Стаіш, як нявеста, ты, мілая.
Прыгожа снягі і марозы
Да шлюбу прыбралі бярозу...

Мне сніцца старонка далёкая,
Там Свіслач плыве сінявокая,
Вясной у расспеваным гаю
Расла там бярозка другая,
Такая ж, як ты, беластанная,
У летнюю зелень прыбраная,
Апырскана ранкамі ў росы,
Часала праменнямі косы,
А косы яе ручаістыя,
Каралі на ёй залацістыя,
Пахучыя тонкія веццi
Пясціў усхвалёваны вецер.

На захадзе хмары клубіліся,
Маланкі вужакамі віліся,
Ў паветры, як бляху, рванула,
Бярозку к зямельцы прыгнула.
Агідныя цені двухкрылыя,
Зялёныя і тупарылыя,
Гудзелі і вылі над ёю,
Зялёнаю і маладою.
Бярозка мая беларуская.
Агнёвай пякучаю хусткаю

Маланка цябе атуліла,
І ўся ты панікла без сілы...
Лісточкі твае пакруціліся,
Галінкі твае апаліліся,
І капаюць светлыя слёзы
З апаленых вочак бярозы.
Фашысты, фашысты праклятыя,
Якой неацэннаю платаю
Плаціць давядзецца вам скора
За наша вялікае гора!

*1944 г.*

## НА УКРАІНЕ

Над шырокім стэпам вольнай Украіны
У бяздонным небе плаваюць арлы,
А за іх палётам сочаць несупынна
З долу дзед старэнькі і хлапчук малы...
На галоўцы ўнука чорная, ў мазолях,
Цёплай ласкай дыша дзедава рука.
Дзед глядзіць на сонца поглядам
саколім,
А унука вочы — кветкі васілька...
Стэп у летнім сонцы дыша волкай
парай,
У траве палыннай б'ецца звон цыкад,
А над вёскай тае белы дым пажару
І грымяць далёка выбухі гармат...
Вывеў дзед малога з абгарэлай хаты,
І пайшлі ў вольны, у шырокі стэп...
«Мамку каты ўзялі, і забілі тату,
І спалілі вёску, і забралі хлеб».
А арлы лятаюць вольна і шырока,
А ў траве палыннай б'ецца ціхі звон,
Сочыць дзед за стэпам сакаліным вокам
І аб помсце марыць, як аб шчасці, ён.

*1944 г.*

## ГАЙ

Гаю мой, гаю,
Гаю зялёны,
Што ж ты не йграеш?
Што задумлёны?
Мы тут, ля вёскі,
Ворага білі.
Што ж вы, бярозкі,
Ў суме застылі?
— Як жа мне гожа
Песенна пеці?
Кулі варожы
Сцялі ўсё веццe...
Капаюць слёзы,
Дзе ж тут іграці?
Вораг бярозай
Высцеліў гаці...
Ды мы ўрачысты
Гімн свой зайграем,
Толькі фашыстаў
Выганьце з краю.

*1944 г.*

## ЛІПЫ

Водар салодкі наўкола льюць ліпы,
Як матылькамі хтось дрэўцы абсыпаў...
Вецці — у кветках імкліва-крылатых,
Быццам бы ў ветразях туга напятых.
Так вось глядзіш, і праз хвілю здаецца,
З ножкі галінка ў палёт адарвецца
І панясецца з вятранаю хваляй,
Пахам мядовым напоўніўшы далі...

На Беларусі таксама ёсць ліпы,
Не матылькамі іх ліпень абсыпаў.
Вораг, на захад адходзячы міма,
Іх апавіў і пажарам і дымам.
Курчацца ў полымі свежыя вецці,
Зоры пажарам над імі там свецяць...
Нерасквітнеўшыя родныя ліпы
Попел ад спаленых вёсак абсыпаў.

*1944 г.*

# НІВА

Шэпча пшаніца наспелую казку,
Клоняцца к нізу калоссі...
Ветрык дыхнуў над ёй цёплаю ласкай,—
Зерне руччом праліліся.
І ні камбайн не выходзіць на ніву,
Ні чалавека у полі,
Сыплюцца жоўтыя слёзы ручліва,
Нібы забытая доля.
— Дзе ж гаспадар мой, руплівы араты?! —
Шэпча пшаніца тужліва...

Ён з перамогай вярнуўся дахаты
І упарадкуе ніву.

*1944 г.*

5 Зак. 1506

## ПЕСНЯ

Яна, як рунь, вясною ўсходзіць,
Не праспяваная нікім,
Мая аб краі песня, аб народзе,
Які з дзяцінства быў маім.
І я жыву, як маладая маці,
Што ў нетры цела чуе рост
Любімага, чаканага дзіцяці,
Што на жыцця ступае мост...
І рух яго я чую каля сэрца,
І кожнай тонкай жылкі стук,—
Я ведаю, праз радасць творчых мук
Маё дзіцятка да жыцця ачнецца.
Спі, дзіцятка! Люлі, спі...
Пабрыла па свеце маці
Долі лепшае шукаці,
Калі край аб волі сніў...
Спі, дзіцятка! Між чужых
Маці холадна жылося;
Так на свеце павялося —
Жыць цяплей паміж сваіх.
Спі, дзяцінка... Зоркай ёй
Там заззяла раз каханне,
А за гэтым, за світаннем,
Стала жыць яшчэ цямней.
Спі, дзяцінка!.. Тады маці
Зарадзіла ў нетры песню
Вось аб тым, што так балесна
Навучылася кахаці.
Спі, дзіцятка!.. Сонца ёй
Мо прагляне цераз хмары;
Краю роднага абшары
Сняцца матаньцы тваёй.
Спіць песня і ў сне спакойна дыша,
А маці дум балючых рой снуе,
Калыску немаўлячую калыша
І калыханку ціхенька пяе.
Журба цяжкая атуліла твар —
Аб долі роднага дзіцяці
Сумуе цяжка, цяжка тужыць маці,
Каму аддаць гарачы сэрца дар?..
Ляглі зямлі шырокія разлогі,

Шмат новых нарадзілася людзей,
Чаму ж самотна так жывецца ёй?
Нідзе цяпла, спагады і падмогі...
Гукні у свет — загіне гулкі зык
Без рэха, нават ценю адгалоску...
Устаў здалёку вобраз роднай вёскі,
З'явіўся з'явай... і адразу знік.
Спіць песня і у сне спакойна дыша,
А маці успамінаў рой снуе,
Калыску немаўлячую калыша
І ціха-ціхенька пяе:
Жыў-быў дзед,
Меў сваю ён хатку.
Да самотнай хаткі
Зараз знік і след.
Сцежкі зараслі
Сцернем, бураломам.
Дзедка меў ля дому
Скібачку зямлі.
Бульбу там садзіў,
Сеяў жменьку жыта,
Ну, і жыў не сыта,
Вельмі бедна жыў.
На сяле ў той час
Новая работа:
На сяле беднота
Завяла калгас.
Ходзіць хваляй збожжа,
Не відаць мяжы.
Зразумей, хто можа,—
Лепей стала жыць!
Залівае жыта
Буралом-пустыр,
Ніва ўдоўж і ўшыр
Дыша хлебам сыта.
Пусткі ўжо няма,
Пустку зааралі.
Паводкаю хвалі
Б'юцца ля акна.
І смяецца дзед,
І смяецца сонца,
У дзедава аконца
Шчасця льецца свет.

А бярозы ля дарогі
У расе памылі ногі
І стаяць грамадай...
Ганя ўвечар выйдзе к гаю,
Там Янук яе спаткае,
Павядзе нараду:
«Еду я у Мінск, Ганузя,
На вучобу. Як вярнуся —
Толькі б дачакацца,—
Жыць, галубка, разам будзем.
А цяпер мне раяць людзі
За навуку брацца.
Ты ж чакай мяне, дзяўчына!»
А Ганузя: «Чым я вінна?
Ці ж няма мне долі?
І ў мяне тут без навукі
Неахвотна ходзяць рукі
Дома і на полі...
Я таксама ў Мінск паеду,
Мне таксама трэба ведаць,
Што рабіць на свеце,—
Ўрач патрэбен для калгаса,
Каб з хваробай люд не знаўся
Узіму і ўлецe».
Усміхнуўся толькі Янка
І абняў за плечы Ганку.
«Ну, дык едзем разам!
Аграномам, Ганка, буду,
Нараблю тут дзіва-цудаў
На палёх адразу...»
Моладзь едзе ў Мінск вучыцца.
Добра, добра будзе жыцца
Людзям у калгасе:
І ўрачы і аграномы
Пазвяртаюцца дадому —
Дык з бядой не знайся.

Мы засеялі поле
Жытам, просам, аўсом,
Рунь зямліцу праколе
І заззяе расой.
Шоўкам будзе ільсніцца,
Зоркай будзе ірдзець.

Як жа не весяліцца?
Як жа песень не пець?
Вунь чаромха пад вокнамі
Водар з раніцы лье,
Сонца промні-валокны
Распусціла свае.
Луг заярыўся ў красках,
Ну, не луг, проста рай!
Сэрцу хочацца ласкі,
Ў сэрца просіцца май...
Вецер вее — не вее,
Гладзіць шоўк валасоў...
Зрок каханнем яснее,
Мяккі дотык вусоў...
Прытулілася вухам
Да грудзей дарагіх,
Што гавора, падслухаць,
Сэрца палкае ў іх.
Месяц самы шчаслівы,
Самы радасны — май!
Спей, шаўковая ніва,
Шчасны наш ураджай.
На лебядзіных шыях залатых
Цяжкія ўніз схіляюцца калоссі;
Во, чуеш — лёгкі ветрык к нам даносіць
Салодкі мёдны подых іх.
Вясёлая жніва пара.
Сноп першы, Ганкаю нажаты,
Яна нясе аж да двара,
За ёй ідуць усе дзяўчаты,
Пяюць жніво...
Сталы накрыты,
Там мяса, сала, хлеб і мёд,
За столлем — радасны народ,
А на стале — сноп першы жыта.
Ільюцца песні там да рання,
Танцуе моладзь аж да дня,
Прыгожая, як кветка, Ганя
Нікому сёння не раўня.
За тое, што яе брыгада
Больш працадзён за ўсіх дала,
Яна сноп першы прынясла.
Цяпер танцуе да упаду.

А маладзіцы за сталом
Гасцей [redacted] раёна прывячаюць
І мёд у чаркі наліваюць,
Каб госцям весела было.
А назаўтра, чуць сонца
Гляне зноў з-за гары,
І малы, і стары
Мітусяцца ў аконцы.
Выплывае камбайн
На калгасную ніву —
У час добры, шчаслівы! —
Сабіраць ураджай.
Ночка летам — агрызак:
Чуць сцямнее заход,
Пaглядзіш, а усход
Ужо золак праніжа.
Заружовіцца неба,
Як дзяўчына у сне...
Вобраз гэтакі мне
Тут прыйшоў без патрэбы,
Бо дзяўчаты ўстаюць
З невялікай ахвотай,
Танцавалі да поту,
Ажна ногі гудуць.
Спалі толькі хвіліну,
А тут звоняць на збор...
Ля камбайна Хвядор
Завіхаецца чынна.
Ходзіць поле, шмат народу,
На жніве увесь калгас,
А камбайн праходзіць ходам,
Робіць сто работ зараз —
Жне, і вее, і малоціць,
І ссыпае у мяхі...
Вось аб гэтакай рабоце
Хто б падумаў ля сахі?
Забірай салому толькі
І звязі у стог жывей;
Колькі спеву, смеху колькі,
Хто удалей, хто жвавей.
А машыну аж да неба
Налажылі дзецюкі.

Многа жыта,
многа хлеба —
Жыць бы проста два вякі.

Ў сорак першы
віратлівы год,
Калі ніва ураджаем спела
І скаціны добры быў прыплод,
На Радзіму гора наляцела.
Ды не стаў народ наш на калені,
Партызаны,
смелыя арлы,
Сталі катам страшным смерці ценем —
Йшоў стары змагацца і малы.
**Песня!**
Тут табе і воля, і прастор,
Дык гудзі ж і разлівайся, песня!
Струнны ўзнят да неба сіні бор,
Звоняць ціха ручаі прадвесня.
Ты краніся ўсіх нязвідных струн—
Пошум краю зашуміць, як мора,
Лес гамоніць, дзіва-гаварун...
Слухай жа, аб чым той лес гавора.
Дзесь далёка загукаў пугач,
Шалясціць лісточкамі асіна,
Нарастае і гудзіць, як плач,
Нібы скарга, гэты сказ былінны.
Чуеш ты, як нарастае шум?
Быццам боль стрымаць не мае змогі,
Тут тварыў нечалавечы глум
Над Радзімай подлы звер двухногі.
Лес усё не можа расказаць,
І маўчаць аб гэтым ён не можа.
Сосны скаргай цяжкаю шумяць,
Быццам боль пякучы іх трывожа,
Ты краніся гэтых звычных струн,
Хай пальецца Белавежы песня,
Лес гамоніць... Дзіва-гаварун...
Ціха звоняць ручаі прадвесня.

Сонца над дарогай сёння ўстала рана,
Кветкі, ап'янеўшы ад расы духмянай,

Хмурацъ над вачыма залатыя броўкі,
Да зямлі схіліўшы сонныя галоўкі.
Я іду здалёку па дарозе смела:
Дуб стаіць, абдзёрты з вопраткі амшэлай,
Хіліцца да долу верба маладая,
Ёй здалёку явар галавой ківае.
Мне ніхто насустрач не устаў з паклонам,
Можа, прывітацца з гэтым рослым клёнам?
Можа, мне з бярозкай белаю абняцца,
Каб з маёй Радзімай шчыра прывітацца?
І дарма я гэтак аб людзях сумую,
Ды і хто б тут помніў Костачку малую,
Што расла далёка дзесьці на чужыне,
А цяпер спяшае к бацькаўскай хаціне?
Я жыла тут сэрцам годы несупынна...
Мо раней прыехаць я была б павінна,
Бо мой край радзімы я кахала шчыра —
Тут звінела Янкі залатая ліра,
Тут Якуба песні, як ручай, звінелі,
Тут мае вяснянкі дзеўкі хорам пелі...
Я прыйшла у мой радзімы дом,
Да старэнькай беларускай хаты,
Ля якой хістаўся клён крылаты...
Стрэлі мяне вогнішча і лом...
Я дайшла да родных маіх ніў,
Дзе калісьці хвалявалась жыта,
Дзе спеў колас, зернямі наліты...
Гэта поле вораг спапяліў.
Скіравалася к маёй радні,
Дзе жыла сястра з дзяцьмі і маці,
Каб іх шчырым словам прывітаці,—
Згібла ўсё у гібельным агні,—
Мне сказалі: «У магіле маці.
Побач з ёю спяць малыя дзеткі,
У палон, на ворага палеткі
Пабрыла сястрыца вандраваці».

Я стаю. Душа мая ў агні,—
Як сцярпець? Як знесці столькі здзеку?
Не забыцца праз гады, праз векі,
Што пражыта ў два кароткіх дні...
Яна паўстане, шчасная без меры,

Зямля мая, і май яе аквеціць
Такой, якой яна нам часта сніцца,
Шырока шчасце нам адчыніць дзверы,
Спеў залунае над шумлівым полем.
І звонка будуць зноў смяяцца дзеці,
І ўзыдзе зноў людзям такая доля,
Што і ў снах найлепшых не прысніцца.
Жыццё ізноў нам зашуміць, як вулей,
Край стане моцны, ўладны, згуртаваны
І на ўвесь свет азвецца звонкім клічам:
«Ёсць Беларусь!» — каб знаці ўсе і чулі...

Вам, хто будзе працаваць і жыць,
Гэту песню сэрца прысвячаю!
Дык умейце свята бараніць
Чэсць і незалежнасць свайго краю.

*1944 г.*



Можа, гэта так і не было,
Можа, гэта мне цяпер здалося:
Ў нас раслі даўжэйшыя калоссі,
Жыта ў нас цяжэйшае расло.

Я стаю на ўзмежку сярод ніў,—
Даль вачам шырокая адкрыта,—
І гляджу на маладое жыта,
Што яшчэ не увайшло ў наліў.

Ў небе плаўна ходзяць каршуны,
Распластаўшы вераломна крылле...
Ці мы думалі аб тым, ці снілі,
Каб Радзіму вораг паланіў?..

Дзе звісае цёмны небакрай,
Дзе ўзнімаюцца гарбамі хмары,
Там — зямлі бацькоўскае абшары,
Мой любімы беларускі край.

Вось, здаецца, толькі прыпаднязь
Небасхілу лёгкую завесу —
І прагляне сінь густога лесу,
І прагляне наша сенажаць.

Зашуміць ліствой зялёны гай,
І рассцелюцца усе дарогі
Стужкамі шаўковымі пад ногі,
Каб маглі мы край свой прывітаць.

Веру, прыйдзе грозны час расплаты,
Хмара ненавісная сплыве.
Ўстане край у сонечным сяйве,
Ўсенароднай славаю абняты.

Можа, гэта так і не было,
Можа, ад самоты мне здалося:
Ў нас растуць даўжэйшыя калоссі,
І паўней іх лета наліло.

*1944 г.*

## ПАМЯЦІ ДРУГА

*Вянок на магілу І. А. Юрчанкі,*
*які загінуў смерцю храбрых*
*28 ліпеня 1942 г.*

...Адна сяджу я за сталом,
Гадзіннік б'е,— і ноч праходзіць...
Ляжыць раскінуты альбом,
А ён вачэй з мяне не зводзіць...
Ён з карткі, як жывы, глядзіць,
У шэрым форменным шынелі,
Рукаў нашыўкай зіхаціць,
Агнём пятліцы заяснелі...
Высокі, статны, поўны сіл,
Выразам волі вусны сцяты.
Мой сокал вольны! Мой крылаты,
Дзе ўзмах тваіх шырокіх крыл?..
Які блізкі, які знаёмы!
І гэты ўважлівы пагляд,
І доўгіх веек цёмны рад —
Такі зусім, якім быў дома.
Тут ён, як сонейка, свяціў
І грэў, як сонца ўмее грэці,
Таварышам і другам быў
Мілейшым, чым усе на свеце...
Што ўспомніў ён у страшны час,
Як куля раптам падкасіла?..
Каго ён клікаў,
                    родны, мілы,
Пакуль, як свечка, не загас?
Як згінуць мог такі магутны?
Кусок гарачага свінца
Рассек ніць палкага жыцця,
Крануўшыся амаль нячутна...
Трава чырвоная была,
Дзе ён ляжаў, такі вялікі,
Бездапаможны ў болю дзікім,
У момант спалены датла...
Свяціла сонца там ці не
У гэты летні дзень гарачы?..
Мо чуў ён, як зязюля плача,

І ўспомніў зразу пра мяне?
А мо ні разу не ўздыхнуў —
Ударыла...
і смерць адразу...
І знікла памяць, і заснуў,
Не ўспомніўшы мяне ні разу...
Не! Сэрцам чую болю крык,
Гучыць ён тут! Цяпер! Сягоння...
«Эх, мая Тоня... Тоня... Тоня...»
Расплыўся — і адразу знік...

Ідзі, душа мая, туды!
Схіліся нізка над курганам,
Чытай зацёртыя сляды
Тайніц, табой не разгаданых...
У неба сіняга спытай,
Спытайся ў хваль шырокіх Дона,
Спытай бярозку засмучону,
Што ўстала на кургана край...
Ідзі, душа мая, адна,
Ідзі дарогаю вядомай,
Ўсё зразумей, пазнай да дна,
Чытай штрых кожны невядомы.
Угледзься ў родны, любы твар
І да грудзей прыцісні вуха,
Пранікні ў мрок апошніх мар,
Апошні сэрца стук падслухай...
На гэтым свеце кожны — госць,
Жыццю адзначана граніца,
Ды той, з кім сэрца хоча зліцца...
О, не кажы: ён быў...
Ён ёсць!
Быў бой цяжкі над ціхім Донам,
Вялікай сілай наступаў
Там вораг.
Ты наскок збіваў
Сваёю танкавай калонай.
Крывёй заліты чорны стэп
Дыміўся ўзрывамі, як ранай,
І сінявокі Дон аслеп,
Плугамі смерці разараны.
Гудзела бою завіруха,
І наступіў той страшны час:

Ты свісту кулі не падслухаў
І... хістануўся, і... загас.
Як боль гарачы, нестрыманы
Па стэпе ўзмыў віхор бяды.
Хто кінуўся к табе тады
Перавязаць паспешна рану?
У час атакі агнявой,
Калі быў камандзір забіты,
Хто танк павёў галоўны твой,
Каб адплаціць за смерць бандытам?
Калі сышліся пахаваць
Цябе сябры твае, танкісты,—
Яны пакляліся ўрачыста
Да перамогі ваяваць.
Не! Ён нядарма кроў праліў:
Радзіма воляй вольнай дыша,
Штандар чырвоны ў неба ўзмыў,
Вятры ізноў яго калышуць.
Курган, што высіцца над Донам,
Не толькі родны ён табе:
Над ім схіляецца ў жальбе
Казак савецкі наш чырвоны...
Над ім устане і ўздыхне
Казачка, ўспомніўшы пра мужа,
Дзяўчынка белая,
як ружа,
Парой слязінку тут пралье.
Усім ён блізкі, любы, мілы,
Усім ён родны, твой герой,
Бо вёў ён цяжкі страшны бой
З праклятаю фашысцкай сілай,
Бо край ён родны вызваляў
Ад подлай варажай напасці,
Бо за народа свайго шчасце
Ён сэрца палкае аддаў...

Бывай, мой родны!
З кветак-мар,
З майго гарачага кахання
Спляту вянок, жалобны дар,
У час балючага расстання...
Спляту вянок з гарачых слёз,
З балючых дум, тугі гарачай,

Тваёй Радзімы сум бяроз
Ўпляту ў яго...
Хай ціха плача —
І Свіслачы свабодны шум,
І пушчы нашай родны гоман,
Дубоў шэпт ціхі, нерухомы,
Сасонак нашых спеўных сум.

Спі, родны мой!
А я пайду,
Пайду далей сваёй дарогай
І панясу маю бяду
Да смерці самага парога...

І толькі ў працы буду мець
Спакой і сэрцу здавальненне...
Вось мне бы так датла гарэць
Для шчасця новых пакаленняў.

*1944 г.*

# ПРЫЕДЗЕШ ТЫ КА МНЕ

Прыедзеш ты дамоў, як адзвіняць марозы,
Жаўронкі запяюць нам песні аб вясне,
Пуховы залаты убор адзенуць лозы,
Празрыстай зеленню акрыюцца бярозы,—
Тады напэўна ўжо прыедзеш ты ка мне...
Не будзе болей выць мяцеліца над долам,
Не будзе ў поле гнаць віровыя кругі,
Не будуць засыпаць глыбокія снягі
І сад, і поле навакола.
Не буду я хварэць тугою безназоўнай,
І больш наш ціхі дом не засумуе, не:
Твой крок раздасца там, крок мужны, роўны,
І голас загучыць, любоўю поўны,
І шчасце ў ім азвецца да мяне.
А я — зноў ажыву ад цёплай тваёй ласкі,
На рэках веснаход напоўніць берагі,
Не будзе сцюжы і тугі,
І блісне доля чарам казкі.

*1944 г.*

## ПЕСНЯРУ

Устань, Купала! Звонкіх струн
Краніся спеўнаю рукою,
Хай грымне песня, як пярун,
Пабудкай зычнаю да бою.
І рушыць Беларускі фронт,
Што стаў цяпер сцяной сталёвай
Калі пачуецца, як звон,
Пабудкі агнявое слова.
І закалышуцца штыкі
Пад гром агнёвай кананады,
І рушаць роты, і палкі,
І танкаў грозныя армады.
І вораг папаўзе, як звер,
З прастораў нашае краіны,
Ад гідкай погані звярынай
Ачысціцца яе бязмер.
Паўстань, народны наш пясняр,
Паўстань, любімы наш Купала!
Распырсні песні палкай жар,
Каб пушча рэхамі зайграла...
Распырсні песні палкай жар,
Распырсні слова агнявое,
У сэрцах запалі пажар
Гарачай помсты перад боем!

*1944 г.*

# КУПАЛА

Долі чорнай заклубіўся дым
Над табой, як быў ты маладым...
Не пясціў цябе лагодны лёс,
Гора шмат ты ў жыцці перанёс.
Статны і шырокі ў плячах,
Бунт у сініх ты насіў вачах,
Гэты бунт ў гарачае душы
Нарадзіў нам песню у цішы.
Пралілася песня цераз край,
Чуў яе наш беларускі гай,
І уторыў ціха песні той
Болем нястрыманым налітой.
А яна — удаль сабе плыла,
Да людзей, да кожнага сяла,
Каб адчуў там кожны чалавек
Глум чыноўны, дзікі панскі здзек,
Каб адчуў усімі ён грудзьмі
Час «тутэйшых» называць людзьмі!
Спеў, як звон, ушыр, удаль паплыў,
К барацьбе за волю ён будзіў,
Палымнеў над краем, як штандар.
Запаляў у сэрцах гневу жар...

Беларусь! Радзіма... З году ў год
Недасеў у вёсках, недарод,
Хлеб з мякінай, бульба да каляд...
Сумны выгляд пахілёных хат,
Вузкія загоны бедных ніў,—
Аб другой для вас ён долі сніў...
І гудзела песня! Ўжо не жаль,—
Зазвінела там гартоўна сталь.
Раб пакутны спіну разагнуў
І на сонца сокалам зірнуў...
І пяяў, пяяў аб сонцы ён,
Палілася песня на загон,
Загудзела ўжо на цэлы свет,
Бо вялікі пеў яе паэт!
Янка пеў!
О, як жа ён пяяў!
Спеў гудзеў, звінеў і нарастаў,

Абнімаў зямлі сваёй бязмер,
Дзе другое йшло жыццё цяпер,
Славу ёй вясціў на цэлы свет —
Наш народны, родны наш паэт...
Рос наш край...
Паэт у славе рос,
І дзяліў сваёй Радзімы лёс,
І квітнела доля ім, як сад,
І квітнеў народ з той долі рад,
Бо ў сэрцы нёс, як сонца, ён
Неўміручы ленінскі закон.

У рэспублік зараносны строй
Смела ўстала роднаю сястрой
Беларусь — у вопратцы азёр,
Над якімі расспяваўся бор,
У істужках нашых сініх рэк,
Што да мора напрамляюць бег...

Надзівіцца не дастане сіл
На расквечаных пагоркаў схіл,
На гаёў зялёных свежы пах,
На шырокі белых крыл размах,
Калі бусел кружыць над сялом,
Падабраўшы да сялібы дом.

Выйдзі з хаты, паглядзі на сад,—
Загарыцца радасцю пагляд,
І адчуеш у грудзях цяпло:
Ўсё благое — як вада, сплыло,
Ходзіць вольна горды чалавек;
Ён савецкім стаў ужо навек,
На калгаснай, радаснай зямлі
К далягляду хвалі паплылі
Жыта, і пшаніцы, аўса,
Бо зямля народная — уся,
Спеліцца у сонечным святле,
Гэта наш, калгасны спее хлеб...

О, Радзіма! Любая мая...
Дзе ж у гэты час краса твая!..
Сорак першы год!
Няшчасны лёс
На маю зямлю цябе прынёс...

Наляцелі процьмай груганы,
Запалілі родны Мінск яны,
Вылі бомбы,
загудзеў пажар,
Чорны дым узняўся аж да хмар...
У першы дзень згарэў Купалы дом,
Горкім, помсты прагнучым агнём...

Бежанцамі з роднае зямлі
Йшоў Купала і мінчане йшлі,
А за імі бушаваў пажар,
Крыллямі агню да чорных хмар...

У вершах Янкі загучаў не спеў,
Заіскрыўся ў іх маланкай гнеў,
Громам ён грымеў на цэлы свет,
Заклікаў да помсты наш паэт,
Кідаў ён агністы свой прызыў
Забіваць забойцаў! Ўсім, хто жыў,
Забіваць! Да чорнай смерці біць,
Каб ніколі не змаглі ажыць...

Вернемся мы зноў у родны край...
Нам насустрач ўстане светлы гай,
Прывітае нас маўклівы бор,
І пачуем цяжкі мы дакор:
«Дзе ж Купала?
Наш Купала дзе?
Што ж ён разам з вамі не ідзе?
Песняра найлепшага зямлі
Што ж на свята вы не прывялі?»
Скажам мы:
«Памёр Купала наш...
Смерць папала у яго бліндаж,
Ён быў з намі там, дзе рваўся бой,
Біў ён словам помсты агнявой...
Згінуў Янка...
Ён спакойна спіць...
Але песня вечна будзе жыць,
Яго песні не сатрэцца след,
Вечна будзе з намі наш паэт!»

*1944 г.*

## НА МАГІЛЕ КАМАНДЗІРА

На твой курган высокі між раўніны
Стэповых кветак мы паклалі бель,
Каб вораг не крануў тае мясціны,
Дзе лёг ты спаць на вечную пасцель.
Пясок насыпалі гарачымі рукамі,
І свой салют апошні аддалі,
І зноў уперад пыльнымі шляхамі
Па следу ворага праклятага пайшлі.
Быў жорсткі час. Мы плакаць не умелі,
Хаця туга нам сэрца абвіла...
Гарматы білі, міны грозна пелі,
Калі брыгада бітву пачала.
Нязломным кожны быў у тым паходзе,
На подзвігі нас помста ўсіх вяла.
Мы ведалі — час мірны надыходзіць,
Мы ведалі — смерць к ворагу прыйшла.

*1945 г.*

## МІРНЫ ДЗЕНЬ

Заняўся золак на усходзе,
Нясмела выглянуў прамень.
Устань, свабодны мой народзе,
Ідзе твой ясны, добры дзень!
Як дзіўны конь залатагрывы,
Ўстае з-за лесу сонца ясь...
Паводдзі спушчаны на нівы,
Плятуць вясёлкавую вязь.
Устань, народ, да творчай працы,
Устань да новых перамог,
Будуй заводы і палацы,
Істужкі рассцілай дарог!..
Над вольным краем сонца ўсходзіць,
Гарыць вясёлкавы прамень...
Устань да працы, мой народзе,
Ідзе твой ясны, добры дзень!

*1945 г.*



О, жанчыны нашы!
Родныя кабеты! —
Вочы свецяць ласкай, непагасным светам.
Толькі калі вораг перайшоў граніцу,
Ён адчуў, што гэта грозныя арліцы,
Маці партызанаў, жонкі партызанаў
Ваявалі самі за свой край аддана.
Помніць бор наш цёмны, сцішныя палянкі,
Як чужынцаў білі нашы партызанкі...

Слава вам, жанчыны,
Дзетак нашых маці,
Нашы гаспадыні
Ў беларускай хаце!
Вы герояў нашых, сокалаў расцілі,
Вы любіць Радзіму больш за ўсё вучылі,
Да айчыннай мовы прывязалі сэрца
І не далі згінуць ёй у паняверцы.

Вы спявалі ціха калыханак спевы,
Як шумяць у лесе апаўночы дрэвы.
Вось таму у сэрцы вольна і шырока
Разраслася сіла — не акінеш вокам...

На дабро, на праўду нам адкрылі вочы,
Вось таму на здраду з нас ніхто не збочыў;
Налівалі грудзі смеласці уздымам
Ціхія жанчыны з светлымі вачыма.
Кволыя пастаці, поўныя пакоры,
Перанеслі мукі, голад, здзек і гора.

Мужнасцю на катаў наганялі жаху,
Ў бой ішлі з адвагай і на смерць без страху.
Хай жа будзе вечна слава і пашана
Гераіням краю, любым і каханым!

*1945 г.*

## ЧУЕШ?

Чуеш — шэпча калоссе аб леце гарачым?
Чуеш — горлінка ў лесе заходзіцца плачам?
Чуеш — бусел клякоча над дубам кашлатым?
Чуеш — спевам вясёлым напоўнена хата?
Па палетках з вянкамі йдзе калгаснае лета.
А у хаце вяселле — спеў вястуе аб гэтым.
Каршун голуба дзюбай параніў на полі —
Плача горлінка: цяжка ўдавіная доля...
Бачыш —
    выйшла дзяўчына ў сад прыветлівы з хаты?
Бачыш — белы убор яе — вельмі багаты?
Бачыш — хлопец шчаслівы выходзіць за ёю?
То ідзе малады са сваёй маладою.
Сталі побач. Ім радасць жыццё асвяціла,
Ім любоў краявід, поўны шчасця, адкрыла,
Зоры ім заміргалі, што ніколі не гаснуць
Над нівай шырокай, над садам калгасным.
Ноч стаіць. Маладыя ў задуме застылі.
Я пайду, не парушу ўрачыстае хвілі,
Слоў не трэба мне чуць, ані ласкі іх бачыць,
Аб якіх — чуеш? — горлінка ўвечары плача...
Каб віно на вяселлях нам салодка пілося,
Каб шумела аб шчасці на полі калоссе,
Каб квітнела ў нас моладзь, як раніцай кветкі,
Каб не плакалі з гора ні маткі, ні дзеткі,
Каб расла і мацнела год ад году Радзіма,—
Сцяг за мір барацьбы мы высока падымем,
І тады ўжо ніхто не пачуе, не ўбачыць,
Як салдацкія ўдовы заходзяцца плачам.

*1945 г.*



Гэтай ноччу мне штосьці не спіцца,
Я гляджу ў пацямнелыя вокны.
Не, не сціхла, не спіць і сталіца,
Ткуць агні залатыя валокны.

Гул ідзе, быццам мора ў аддалі
Гоніць воды на бераг скалісты,
Быццам гойдае чорныя хвалі
І шуміць у бяскрайнасці мглістай.

Як штодзень — заўтра трэба на працу...
Сон упарта не склейвае вока.
Б'е гадзіннік павольна — дванаццаць,
Дзе ты, любы? Чаму ты далёка?

Ты адзін — на Далёкім Усходзе.
Я адна — тут, у нашай сталіцы...
Ад цябе скупа весткі даходзяць,
Вось таму мне сягоння не спіцца.

*1945 г.*

# МАСКВА Ў 1941 ГОДЗЕ

Зіма, суровая зіма,
Ідзе мароз шырокім фронтам...
Ні свету, ні цяпла няма,
У небе выбухі налётаў.

Падвал... Адбой... Ізноў падвал...
І рупная для фронту праца...
Хто тут у час той працаваў,
Траншэі рыў, асколкі мацаў,
Той не забудзецца навек
Пра дні маскоўскай абароны,
Як клешні ворагу адсек
Меч нашай Арміі Чырвонай.

Быў час цяжкі...
Гудзеў здалёк
Адгук варожай кананады,
Шырокі бежанцаў паток
Паплыў пад прывідам блакады...
Ішлі машыны...
Людзі йшлі...
Масква ў нямой стаяла скрусе...
На падмаскоўнае зямлі
Быў бой у снежнай завірусе.

Якая ў гэты час была
Масква да болю дарагая!
У сэрцы спела і расла
Любоў к ёй моцная, святая.

Каменьчык кожны на зямлі,
Цаглінка ў старых камяніцах,
Здаецца, ў сэрцыураслі
Усіх тых, хто бараніў сталіцу.

Насустрач полымю вайны,
На фронт, у пекла бою,
Радзімы слаўнае сыны
Ішлі сваім сталёвым строем.

І вёў адзін такі атрад
Юнак з адкрытым тварам шчырым.
Гарэў адвагаю пагляд
У маладога камандзіра.

— Не аддадуць,— шапнула я,—
Маскву героі-арляняты...—
Байцоў адзіная сям'я
Жалезнай воляю зацята.

Калышуцца у такт штыкі,
Праходзяць роты, і брыгады,
І батальёны, і палкі,
І танкаў грозныя армады...

Як на парад — за строем строй,—
На мужных тварах моц і ціша...
На шапках — зорак палкі рой,
Яго ў паходзе строй калыша.

Гудзіць завея, вецер дзьме —
Масква закована марозам.
У жудаснай халоднай цьме
Мы гора бачылі і слёзы.

Ды рук ніхто не пакладаў,
Ні сну не знаўшы, ні спакою,
Аддана кожны працаваў
Для фронту, партызан, для бою.

Мы ладавалі цягнікі
Снарадамі, абуткам, хлебам,
Кавалі вострыя штыкі,
Сачылі за сталіцы небам.

Рабілі зброю для байцоў.
Ватоўкі шылі і шынелі,
Хадзілі на пілоўку дроў,
Каб бараніцца ад мяцеліц.

Лячылі раны...
А штоноч
Пад жудкае выццё сірэнаў

Мільёнам рук, мільёнам воч
Масквы мы баранілі сцены.

І адкаціўся ўрэшце фронт
Ад нашай любае сталіцы.
Больш не паліўся гарызонт
Баёвых сполахаў зарніцай.

Тут клешні ворагу адсек
Меч нашай Арміі Чырвонай.
Дык не забыцца нам навек
Пра дні маскоўскай абароны.

*1945 г.*

* * *

Сэрца не кіне да смерці балець,
Покуль магілы я той не крануся,
Дзе ты заснуў... Кедр там можа шумець,
Кусцік бярозкі — сястры Беларусі...
З кедрамі там ім няўтульна расці,
Там яны дробныя, ў кволай паставе...
Студзіць карэнні лядовы насціл,
Як ім свой стан серабрысты расправіць...
Як ім карэнні жывыя расціць,
Як прарастаць скрозь лядовыя сцелі?..
Спіш ты спакойна — ў халоднай пасцелі,
Кедр над табою спагадна шуміць.
Другам табе ён, таварышам стаў,
Казкі пушыстыя ціха гамоніць,
Толькі адзін — слёзы раніцай роніць,
Дзёрн над табой каб гусцей прарастаў.
Тут я твар мыю слёз горкай расой —
Спіш ты далёка... А дзе — мы не чулі...
Мне не знайсці...
Хай прырода атуліць
Сон твой гаротны — лагоднай красой.

*1945 г.*

## ДОБРАЙ НОЧЫ, БЕЛАРУСЬ!

Адгрымеў тут бой капытам збройным.
Тут начамі спяць ужо спакойна.
Не стракоча, выглянуўшы з дзота,
Ліўнем куляў рыла кулямёта,
Не лунаюць сполахі пажараў,
Дым не ўецца тут чырвонай хмарай.
Тут начамі спяць цяпер спакойна,
Цэлы дзень атрады юных, стройных
Разбіраюць друзы і завалы,
Каб Радзіма любая заззяла
Новай, небывалаю красою,
Мылі людзі твары слёз расою —
Цяпер твары росіць пот рабочы —
Людзі край падняць да неба хочуць!
Мы будуем хаты і палацы,
Як адзін — мы выйшлі ўсе на працу...
А начамі спім цяпер спакойна:
У магілах спіць фашыст разбойны,
Жвір наш выядае яму вочы,
І зямлі ён мае — колькі хоча!

*1945 г.*

# ГОСЦЮ З ФРОНТУ

Ты прыйшоў — як веснік перамогі,
У шчаслівы гэты ранак маю!
Дык вітаю! Адпачні з дарогі,
Як найблізкага цябе вітаю.
Сядзем снедаць, чым багата хата,
І падымем чаркі мы за тое,
Каб ніколі не таптлі каты
Нашых ніў багацце залатое...
Выпьем за байцоў, што там, на фронце,
Гэты дзень гадамі здабывалі,
Што зямлю крывёю палівалі —
Каб сягоння так свяціла сонца...
Ты — ад іх! Дык сядзь у маёй хаце
На пачэсны кут, як госць каханы...
Кожны з нас кагосьці з блізкіх страціў...
Было цяжка...
Кроў... І смерць... І раны...
Хай не жаляць сэрца успаміны!
Аб гадах няволі, гора, мукі,
Калі нам гармат ігралі гукі
І надрыўна завывалі міны...
Мы чакаем вас усіх дадому.
Ну, а дом ваш — цэлая Радзіма!
Загрымяць салютаў шчасных громы,
Ўвесь народ вас радасна абніме.
Мы разгладзім зморшчак вашых рысы,
Што суровасцю убралі твары,
Здзейсняцца жаданні ўсе і мары,
Што яшчэ дагэтуль не збыліся...
Не чужыя вы! Усім вы — брацця!
Вас любоў чакае і пашана,
Дык жа сядзь за стол у маёй хаце,
Госць мой з фронту,— доўга так чаканы!

*1945 г.*



Я многага ў жыцці яшчэ чакаю,
Я на парозе новага стаю...
І радасць маё сэрца акрыляе
І напаўняе ўсю душу маю.
Я чую, як пявучыя матывы
Снуюцца ў ёй у песенныя дзівы.
Дык дзе ж тут старасць? Дзе яе туга?
Дзе горкая панурасць і бязволле?
Вясёлкавая, стромая дуга
Мне абяцае шчасце новай долі.
О, не! Не ўсё яшчэ жыццю я аддала.
Нанова з прагнай і вялікай сілай
Шукаю ў творчай працы я цяпла,—
Святлом Радзіма шлях мне асвяціла.

*1945 г.*

## Я ХАЧУ

Я хачу Беларусь зноў убачыць багатай:
Каб стаялі ў сонцы высокія хаты;
Каб у люстрах азёр адбіваліся вёскі,
Каб наўкола жыцця быў нябачаны росквіт;
Каб з калгасных двароў выганялі шторана
Статкі сытых кароў на палетак духмяны;
Малако каб і масла ў калгасе вялося;
Каб калгаснікам добра, багата жылося;
Хай ля кожнае хаты зноў будуць прысады,
Мальваў, руж і вяргіняў хай льюцца
каскады,
Расцвіце няхай красак такое багацце,
Як цвіце наша доля калгасная ў хаце.

*1945 г.*

## ПА ДАРОЗЕ Ў МІНСК

Мне да вас зусім не дабрысці,
Калі проста пехатой ісці.
А калі ляцець на крыллі думак,
Дык праз хвілю я ізноў між вас,
І нясецца непрыкметна час,
І няма ў душы ні кроплі суму.
Як жа лёгка, шчасна мне тады,
Калі птушкаю да вас імкнуся
Над лясамі роднай Беларусі,
Над шклянымі тонямі вады,
Над чаргой прыгожых, новых хат,
Што пасталі ля дарогі ў рад.
Шлях мне гэты здаўнага знаёмы,
Я не першы раз ляту сюды,
Толькі тут былі вось горы лому,
А цяпер — і хаты і сады
Шпарка узрастаюць на руінах
З вашай працы — творчай і няўпыннай.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Веру я, што пройдзе нейкі час,
Край увесь адноўлены устане,
Скіне з плеч абслоны рыштаванняў,—
Дух людскі ад стомы не пагас!
Бачыш? Высіцца аздобны мур.
Чуеш? Б'е у кузні цяжкі молат,
Расплаўляе думка сталі холад,
Выгібае хвілісты ажур,
І ўжо новы радасны балкон
Дом вянчае з чатырох старон.
Расцвілі жывымі ў тонкай сталі
Кветкі, лісці, травы, каласы,
І букет расквечанай эмалі
Зіхаціць вясёлкамі расы.
З тых руін, дзе попел, пыл і лом,
Вырастае новы ясны дом.

*1945 г.*

6 Зак. 1506

# ЛЁТЧЫКУ

Лётчык ты мой слаўны, сокал ты мой мілы,
Што блісnуў на сонцы птушкай срэбнакрылай,
Калі ўбачыш стрэхі чорныя Берліна,
Скінь там бомбу помсты за майго ты сына!
Малады мой хлопчык трэці год ваюе,
Дом яго самотны, дом яго пустуе,
І сынок маленькі дарма кліча тату,—
Скінь за сына бомбу, сокал мой крылаты!
Займецца хай хата ворага пажарам,
Хай пасокі чорнай задыміцца лужа...
Ты узмый да сонца і спікуй на хмару;
Скінь другую бомбу за майго ты мужа!
Хай завые бомба ворагу праклёнам!
Страціла брыгада бацьку-камандзіра,—
Біўся ён за Кіеў горача і шчыра
І загінуў дзесьці за шырокім Донам.
Дык за слёзы жонкі і за кроў танкіста
Ты змяці дашчэнту логава фашыста.
І яшчэ раз к сонцу узнімися, сокал,
І спікуй да нізу, мсціўца мой крылаты.
Трэцюю скінь бомбу за майго ты брата.
Быў ён добры, мілы, ціхі, яснавокі,
Біўся ля Арла ён, біўся каля Ржэва,
Вестак ад яго мы трэці год не маем,
Сохне з гора маці, як у спёку дрэва,
Жалю не утуле жонка маладая,—
Выканай жа просьбу, сокал мой крылаты,
Трэцюю скінь бомбу за майго ты брата!

*1945 г.*

## САЛДАТУ

Знімі сягоння шлем сталёвы,
Хай шоўк валос растрэпле вецер.
Пачнём сягоння жыць нанова.
Хай доля шчасцем нас аквеціць.
Вайна зацiхла ўжо на свеце,
З баямі ўзята перамога.
Знімі свой шлем. Хай цёплы вецер
Загасіць у вачах трывогу.
Як любы госць, зайдзі у хату,—
Сягоння мы зварылі піва,
Дык кварту першую — салдату,
Каб выпіў ён за лёс шчаслівы.
Заходзь у хату! Гаспадыня
Нясе ужо аладкі з мёдам,
Дастане ў свірне, з жоўтай скрыні,
Святошнай пляшку «асалоды»;
Наліўка так у нас завецца,
На ёй гарыць агеньчык сіні.
Як вып'еш,— дойдзе аж да сэрца,
А п'еща,— нібы мёд пчаліны.
Калі ж яшчэ пірог з грыбамі,
Калі яшчэ з смятанай каша
І верашчака — ды з блінамі,—
Дык у вачах святло запляша,
І лаўкі пойдуць упрысядку,
І печ сама упрэцца ў бокі,
І пойдзе ўсё сваім парадкам:
І песні, і гульня, і скокі.
Ты зняў сягоння шлем сталёвы,
Зайшоў спачыць да нас у хату,
І ўсё тут для цябе гатова —
Савецкай Арміі салдату.

*1945 г.*

* * *

— Дзяўчынка, галубка, ты ведаеш, можа,
Чыё ля дарогі красуецца збожжа?
Не бачу я вёскі, не бачу я хаты,
Дык чый ураджай тут расце так
багата?

— Тут вёску даўно ўжо чужынцы спалілі,
Людзей тут няма,— іх усіх паланілі,
Тут бой быў вясной,— мы пабілі
фашыстаў,

Засеялі поле зярном залацістым.
Шуміць наш палетак, шуміць ён і спее,
Як шчасце народа, як наша надзея.
— Дзяўчынка-галубка, а дзе ж той
араты,

Не бачу зямлянкі, не бачу я хаты.
Куды ж ён падзеўся, той сейбіт
цудоўны,

Што поле засеяў так складна, так роўна?
— Засеялі родныя нашы салдаты!
Салдат быў і сейбіт, салдат быў араты.
Пасеяўшы, з боем падаліся далей,
Іх новыя ўперадзе бойкі чакалі!
Во! Бачыш, дзядуля, драўляныя слупы,
Так звалены ў яму варожыя трупы.
На іх навалілі тут жвіру і гліны.
— А нашы салдаты?
— Пайшлі да Берліна!
Як ворага змогуць, дык прыйдуць дахаты,
Каб шчасна спажыць ураджай той багаты.

*1945 г.*

* * *

— Чую, маці мая,
Нейкі звон чую я.
Абатры мае вочы ад слёз.
Чую, гоман ідзе па зямлі,—
Гэта войскі з паходаў пайшлі,
Вецер гул іхніх крокаў данёс.
Любы прыйдзе дамоў,
Ён і жыў і здароў,
Прынясе яго конь вараны...
На кані тым — чырвоны чапрак,
Нібы сокал, мой любы юнак...
Чуеш? Бубны гудзяць і званы?
— Што глядзіш ты здарма,
Гэта звоніць зіма,
Гэта ў бубны забіла мяцель.
Ляж, дачушка мая, адпачні,
Вочы-зоры на хвілю самкні,
Разбяру я пасцель...
. . . . . . . . . . . . . .
Спіць дзяўчынка і ў сне
Усміхаецца мне —
Хлопец любы прысніўся ёй зноў.
Ты спыніся, мяцель, не гудзі,
Ты дзяўчынку маю не будзі,—
Хай ёй сніцца любоў.

*1945 г.*

* * *

Ты сягоння ноччу закрычаў у сне...
Стала неяк жудка і сцюдзёна мне.
Дзе ты быў душою ў гэты ціхі час?
Крык такі вось самы чула я не раз:
Помню, у палаце раненыя спяць,
Цяжка дышуць, смага, вусны іх гарадь,
Тоўпяцца прад імі вобразы вайны,
І тужліва стогнуць і крычаць яны.
Ты ж здароў і дома, ты ж цяпер пры мне.
Што ж цябе так мучыць нават тут,
у сне?
Пацямнеў адразу пастарэўшы твар,
Быццам цісне грудзі стома і цяжар.
Я кранулся мякка смуглых рук тваіх,
Каб кашмар спыніўся і каб боль уціх,
Каб пачуў, што дома ты,— не на вайне,
Каб заснуў спакойна, ціха ля мяне.
Печка дыша жарам... З вокан аж да зор
Распасцёрся белы, снегавы прастор.
Дзеці спяць у ложках. Вецер не
шуміць,—
Нават ён імклівы на пярыне спіць.
Заглядае ў вокны месяц залаты.
Што ж цябе так мучыць?
Што ж так стогнеш ты?
Нават ціхай ноччу, тут вось, ля мяне,
Чую,— не са мной ты! Зноў ты на вайне.

*1945 г.*

## МАЙ 1945 ГОДА

Сонейка праменні лье шырока,
Яны льюцца, звоняць і спяваюць.
Таюць хмаркі ў сіняве высока,
Матылькі стракатыя лятаюць.
Пахне дзіўна кожная сцябліна,
Дыша лісце клёнаў пад расою.
І стаіць бярозка, як дзяўчына,
З русаю распушчанай касою.
Гэта вобраз роднае краіны
Ў ёй расцвіў у гэты ранак мая,
Ў час, калі сурова над Берлінам
Суд народаў Армія спраўляе.
Горад чорны ўгору падняў рукі,
Не задушыць нічыёй свабоды,—
Плаціць сёння ён за кроў і мукі
І за гора, што прынёс народам.
Хай згарыць жа ён агнём пякельным!
Хай згарыць дашчэнту, да заглады!..
Май ідзе к нам з песняю вясельнай,
А к яму — з грамамі кананада.
Палымнеюць пурпурныя зоры
На Крамлёўскіх пасівелых вежах.
Па савецкай стараны прасторах
Носіцца вясенні ветрык свежы.
Ён сцягі чырвоныя калыша
Над Масквой, над Мінскам,
Сталінградам.
Тут у нас цяпло, спакой і ціша,
А Берліну — граюць кананады.
Чорны спрут, загнаны ў падзямелле,—
Пруціцца у полымі, у дыме.
Кроў ён піў! Дык вось прыйшло
пахмелле
І навісла хмарай над Берлінам.
Бо наўкруг усталі грозныя сілы,
Грознай сілы суддзі-веліканы...
Прыгавор адзін яму: магіла!
Дык жа згінь навек, фашызм паганы!

*1945 г.*

## СКАРБЫ

Вось чаго ў жыцці я не зраблю ніколі:
Не прадам я сэрца, не прадам я волі,
Не прадам я песні...
Хоць бы мне за гэта
Каля ног зλажылі скарбы ўсяго свету.
Я жыву без лішку...
Многа мне не трэба:
Маю свой прытулак і кавалак хлеба.
Дык нашто мне скарбы, хоць і ярка свецяць,
Што рабіць мне з імі і куды іх дзеці?
Ёсць у мяне скарбы...
Іх ніхто не бача...
Гэта: калі вочы з радасці заплачуць,
Гэта: калі песня цераз край пальецца,
Гэта: калі сонца ў вокнах засмяецца,
Гэта: калі кветкі пах раняюць кволы,
Калі шчасце раптам льсніцца навакола
І гарачай хваляй затапляе грудзі,—
У мяне такія ёсць, былі і будуць...

*1945 г.*



Прыйдзе, я ведаю, тая пара,
Стол мы паставім у ценю двара,
Вынесем лаўкі пад клён залаты,
Сядзем за стол. Сядзеш з намі і ты.
Чарку высока узнімем у круг,—
Дык жа з сустрэчаю, брат мой і друг!
Вып'ем, закусім, нальём зноў зараз.
Ціха пачнеш ты суровы свой сказ
Аб акружэнні, няволі гадах.
Зведаў ты гора, але не зачах,
Вынес нямала і вось, паміж нас,
Сёння вядзеш свой праўдзівы расказ.
Як жа мы доўга чакалі цябе!
Маці не знесла тугі і ў жальбе
Вочанькі-зоры закрыла навек,—
Зацерушыў яе магілку снег.
Брата спаткаўшы сягоння свайго,
Воч мы не можам адвесці з яго.
Тут ён ізноў, малады і жывы,
Толькі ў нахіле сівой галавы,
Толькі ў запаўшых глыбока вачах
Тоіцца цяжкі пражытага жах.
Любы! Забудзься аб тым, што было,
Сонца над хатай струменіць цяпло,
Клён так прыветна, любоўна шуміць.
Дружнай сям'ёй будзем добра мы жыць.

*1945 г.*

# МАГІЛА

Шумяць кавылі над магілай,
Схіляюцца мяккія травы,
Туман разаслаўся бялявы,
Узняўся над вербай пахілай.
І хто тут ляжыць пахаваны,—
Не ведаюць вербы і елі.
А вецер данёс да кургана
Маленькія зерняткі хмелю.
Хмель хмаркай зялёнай завіўся,
Асеў на высокім кургане.
Дубок маладзенькі прыжыўся,
Расце, і шуміць, і не вяне.
За тое, каб жыць нам на волі,
Каб дыхаць паветрам свабодным,
Зляглі пад курганам саколы —
Салдаты зямлі маёй роднай...
Жывыя ж, каб болей ніколі
Не ганьбілі край наш чужынцы,
На варце ў палёце саколім
Стаяць над праменным гасцінцам.

*1945 г.*

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, БЕЛАРУСЬ!

Заняўся золак на усходзе,
Нясмела выглянуў прамень.
Устань, свабодны мой народзе,
Ідзе твой ясны, добры дзень!
Як дзіўны конь залатагрывы,
Ўстае з-за лесу сонца ясь...
Паводдзі спушчаны на нівы,
Плятуць вясёлкавую вязь.
Устань, народ, да творчай працы,
Устань да новых перамог,
Будуй заводы і палацы,
Шляхі шырокія дарог!..
Над вольным краем сонца ўсходзіць,
Гарыць вясёлкавы прамень...
Устань да працы, мой народзе,
Ідзе твой ясны, добры дзень!

*1945 г.*

* * *

Як жа хочацца лета!
Сядзець бы пад ліпай,
Каб шумела яна нада мной,
Каб квітненнем яе густа ліпень абсыпаў,
І гудзелі каб пчолы на ёй...
Мне бы слухаць, як дзесьці, далёка за
вёскай,
Дзеўкі песні у полі пяюць,
Мне бы слухаць спеў гэты
і ў далі пачуць,
Як бор цёмны гудзіць маладым
адгалоскам.

*1945 г.*

## ДОБРЫ ВЕЧАР!

Зорны сіні плашч адзеў на плечы
І спакойна на сады ідзе
Беларускі цёплы добры вечар,
Зоры запаліўшы на вадзе.
Ціха дрэмлюць у задуме пожні,
Парна дыша ўзораны папар,
Шчасна шэпча штосьці колас кожны,
Месяц чоўнам плавае між хмар.
Дзень прайшоў гарачай творчай працы,
Велічных народных перамог,
Вырастаюць вёскі і палацы,
Новых вуліц роўны шлях пралёг.
Мы — творцы жыцця! Шляхамі тымі
Пойдзем мы за шчасцем новых дзён,
Што крыламі ззяюць залатымі
Над пурпурам баявых знамён.
А цяпер прыйшоў наш добры вечар.
Поўны шчасных і таемных мар,
Зорны плашч накінуў ён на плечы
І асеў на ўзораны папар.

*1945 г.*

# САКАВІК

Снег усё засыпаў густа,
Ахінуў, нібыта хустай,
Ўсе палеткі, сцежкі ён.
Спіць пад пухкім снегам поле,
Сніць яно аб новай долі
Свой вясенні, ясны сон.
Сакавік прыйшоў сачысты,—
У бярозе ён бязлістай
Гоніць свой кіпучы сок.
І ў ажыўшых жылах клёну
Сок салодкі, сок зялёны
Да галля уверх пацёк.
Вербы пухам абляцелі,
На вяршыні цёмнай елі
Зноў пупышкі зацвілі.
Залацістая сасонка
Зашумела гучна, звонка
Шум панёсся па зямлі.
Сніцца полю: з кожнай хаты
Выйшаў радасны араты
На калгасны вольны лан,
Лемяхі узнялі глебу,
Каб разліўся — аж да неба —
Збожжа светлы акіян.

*1945 г.*

# ВЯСНА

Яшчэ снег атуляе даліны
Зледзянелай і жорсткай карой;
Яшчэ хмары, набраклыя сінню,
Сеюць крупы вячэрняй парой;
Яшчэ ноччу сціскаюць марозы
Сцен набухшых драўляны насціл,
І звініць шклом маністаў бяроза,—
Сівер вецці ёй быццам ашкліў;
А з-пад стрэх капяжу сталакціты
Ў гурбу снегу уткнулі насы,
Сонца ззяе у кроплях празрыстых,
Яны ж звоняць на ўсе галасы!
Сонца ззяе.
Абмытае неба
Засвяцілася неяк ясней;
Хмаркі так, без усякай патрэбы,
То стаяць, то спяшаюць далей,
Быццам птахі на моры на сінім,
Ўсё плывуць у напрамку адным.
У паветры паблісквае іней,
А над стрэхамі — курыцца дым.
Разгукаліся пеўні на вёсцы,
Дзесьці чуецца гоман...
Іду
Над разбуджанай рэчкай па дошцы
І гляджу ў маладую ваду.
Яна свеціцца чыста між снегу,
Яна льецца і звоніць, пяе:
— Не стрымаць майго вольнага бегу,
Бо вясна яму сілу дае!
Хоць мароз і спрачаецца смела,
Аж пагрозна начамі трашчыць.
Я звіню! Я плыву! Я запела!..
Я хачу скінуць путы і жыць!

*1945 г.*

## УВЕСНУ

Снег ляціць бліскучымі іскрамі,
Мокрай ватай на вокны сцелецца,
І сплывае кроплямі быстрымі —
Ні то дождж, ні то мяцеліца...
Мокнуць стрэхі.
Намоклі вуліцы.
Сонца свеціць.
Сняжынкі кружацца.
Топаль змёрзлы да вокан туліцца.
Ветрык з ім захацеў падужацца.
Ручаінаў шум усхвалёваны,
Ён цурчаннем звініць, разносіцца...
Мо таму, да цябе скіравана,
Мая песня на волю просіцца.
Ты, Радзіма мая далёкая,
Сустракаеш вясну свабодная,
І шумяць твае рэкі шырокія,
Абдымаюць прасторы родныя.
Дык квітней жа вясновай ружаю,
Васількоў расквітай блакітамі,
Мая любая, ясная, мужная,
З маім сэрцам навекі злітая!

*1945 г.*

## ЛЕТА

Лісцем квола клёны звоняць,
Ліпа ў сонцы пахам млее,
Белы ліст бяссільна роніць,
Адквітаючы, лілея,
Каласы у ясным сонцы
Звіслі пад цяжарам жыта,
А пшаніца, як чырвонцы,
Сплавам полымным наліта.
Лён шаўковы сінявокі,
Як згусціўшаеся неба,
Канюшыны лан шырокі,
Як сцяна. Касіць бы трэба...
У траве суніц чырвоных
Палымнеюць жарна краскі,
Хоць лісточкаў цень разбёных
Скрыла іх аздобнай маскай...
Матылькі, як снег квяцісты,
Крыллі — яснасць агняцветаў,
Пчолкі з пожняю пушыстай,
З цёплым, жоўтым пылам кветак...
. . . . . . . . . . . . . . .
Дзесь стракочуць на загоне
Лабагрэйкі-стракатухі,
Дзесьці кветкі слёзы роняць
Пад нажом, ад цяжкай скрухі...
І камбайн ідзе, праходзе
Каласістым, зыбкім морам,
Каб пры добрае пагодзе
Зернавыя ссыпаць горы...
Агарод наліўся сокам
Агуркоў, гароху, рэпы,
Памідор з чырвоным бокам,
Тыква — цвету кураслепу.
Зойдзеш — выйсці не захочаш,
Тут прывабна, там прыемна,
Пяліць боб сляпыя вочы,
Толькі жджэ ён нас дарэмна.
Мы гасцілі у гароху,
Побач з рэпкай і маркоўкай,
Вабіў мак яшчэ нас троху

Недаспеўшаю галоўкай.
Скора вечар шэры сядзе
На палеткі ў плашчы зорным,
І зальюцца у прысадзе
Дзеўкі песняю задорнай.
На жалейцы заіграе
Пастушок, прыгнаўшы з поля...
Песня льецца, нарастае
І ільсніць, як наша воля.

*1945 г.*



Каб умела лятаць я вышэй за арла,—
Не на скалах бы голых гняздо я звіла.
Ёсць краіна, што мне за жыццё даражэй,
Ёсць рабіна,— магілку яна сцеражэ,
Я пры той бы рабіне жыла.

Каб я звонкім малым салавейкам была,
На рабіне б зялёнай гняздо я звіла.
Над магілай героя і ўночы і ўдзень
Я спявала б, а звонкая песня з грудзей,
Як бурлівая б рэчка, плыла.

Каб я шэрай зязюляю стацца магла,
Я б лятала ўвесь дзень ад сяла да сяла,
Там, дзе людзі працуюць цяпер як нідзе,
Там, дзе новая доля у госці ідзе,
Кукавала б аб шчасці людзей.

Каб я гонкаю ластаўкай стацца магла,
Пад калгаснай страхою гняздзечка звіла,
І на ліпе старой, што ля вокан цвіце,
Я б да дружбы сваіх навучала дзяцей,
Каб там дружба заўсёды жыла.

*1945 г.*

# ДЗЯЎЧЫНЕ

Засмейся! Твой смех, як ручай у лагчынцы,
Журчыць пералівам вясновым...
Заглянеш у вочы такой вось дзяўчынцы,
І думка акрыліцца словам.
Крылатая думка, як сокал той вольны,
Нясецца ад сэрца да сэрца,
Сімфоніяй дзіўнай, шырокай, прывольнай,
З праменнямі сонца спляцецца.
І родзіцца радасць... з прасторам, як мора,
І родзіцца шчасце, багацце...
Засмейся, дзяўчына, загіне хай гора,
Хай грудзі напоўняцца шчасцем!

*1945 г.*

## ПЕСНЯ

Хачу, каб плыла ты свабодна з грудзей,
Ляцела да блізкіх, да родных людзей,
І ўсё, аб чым сэрца і марыць і сніць,—
Хай льецца у песні, і зззяе, і льсніць.
Хачу, каб плыла ты свабодна з грудзей
Туды, дзе прамень сіні зорка прадзе,
І з ёю над хатамі ў зорнай начы
Струменіла радасць, што ў слове гучыць.
Хачу, каб плыла ты свабодна з грудзей
Туды, дзе мяцеліца бою гудзе,
Да кожнага сэрца байца данясла
Бязмежжа кахання,
                бяздонне цяпла.
Хачу, каб свабодна плыла ты з грудзей
І ў час перамогі, як вораг падзе,
Пабедную славу вясціла да хмар,
Ўзляцеўшы над светам, як волі штандар.

*1945 г.*

## ДУША ГУЧЫЦЬ

Здаецца мне, што я — не я, часамі,
Што песнямі напоены прастор
Дрыжыць ва мне, і свеціцца агнямі,
І напаўняе краявід да зор.
Узняць бы мне рытм песні так высока,
Каб моц зямлі у гэту песню ўліць,
Няхай плыве яна туды, далёка,
Дзе Беларусь азёрамі ільсніць.
Хай звонка, галасіста
Над нівамі, над сёламі плыве,
Хай адаб'ецца адгалоскам чыстым
У сэрцы тых, хто ў шчасці там жыве.

*1945 г.*

## ГЕРОЮ

Я табе не жонка, не сястра, не маці,
А партрэт твой маю у сваёй я хаце,
На куце пачэсным ручніком абвіты:
Ты глядзіш там смела, проста і адкрыта.
На кашулі шэрай ордэн мякка ззяе,
Туліцца да сэрца зорка залатая...
І скажу паціху...
Часта сэрцу сніцца,
Што і я магла бы гэтак прытуліцца
Хоць бы на хвілінку і, замкнуўшы вочы,
Чуць, як сэрца палка у грудзях стукоча.
Не скрану я з месца зорку залатую.
Толькі стукат сэрца мужнага пачую
І скажу паціху: «Сокал ты мой мілы,
Ведай, што цябе я шчыра палюбіла».
Кожны дзень я стаўлю прад тваім партрэтам
Кветкі палявыя, росныя букеты...
Загудзіць у небе самалёт над хатай,—
Мне здаецца, гэта ты, мой госць крылаты,
Ўслед гляджу я доўга птушцы
срэбнакрылай,
Шэпча мне надзея: вернецца твой мілы.

*1945 г.*

# МОРА

Я тужу аб моры...
Сніцца мне яно:
Свецяцца глыбіні, у каменнях дно,
І ўздымае смела грудзі буйных хваль
Вецер, што нясецца над вадой удаль.
Мора дыша...
Ціха зыбіцца прыліў,
Хтосьці агняцветы ўкола запаліў,
І рытмічна-гулка шэпча штось пясок,—
Цяжкі, нерухомы, ён асеў і змок.
Я тужу аб моры...
Сніцца мне яно:
Быццам воды бурна дыбяцца сцяной,
І кідае вецер шумны, пенны вал
На гранітны выступ нерухомых скал.
Набягае хваля жоўтая, з пяском,
Дно скрыпіць, і гнецца, і грыміць, як гром,
І назад скідае сотні тон вады
З грывай серабрыстай пеністай грады.
Я тужу аб моры...
Сніцца мне яно:
Вечар ціхі, цёплы... Ты сядзіш са мной.
А далёка дзесьці свеціцца маяк —
Шчасця і спакою залацісты знак.
Ціха-ціха ўночы шалясціць прыбой...
Як мне добра сёння вечарам з табой!
А ў прыморскім парку, на вяршынях дрэў,
Ходзіць адгалоскам ціхі мора спеў.

*1945 г.*

# ЕЛКА

Апранула з белай ваты андарак,
Ногі ўсунула у белы, цёплы пух,
Не дабрацца к ёй марозу аніяк,
Кружыць снег над ёю роем белых мух...
Хоць і вельмі урачыстая яна,
Веліч проста знерухоміла яе,—
Збоку мжыцца пахам радасным вясна,
Бо галінка пах смалісты ў сонцы лье.
Хоць усю яе ахутала зіма
У бліскучы, у пуховы, мяккі снег,
А стаіць яна, як маладосць сама,
Ў ёй і радасць, і вясёлы звонкі смех.

*1945 г.*

## ЗІМА

Пад коўдраю белай заснула зямля,
Снег сцелецца, сцелецца, сцелецца...
На просецы чорныя кучы галля
Закрыла пярынай мяцеліца.
Павіслі галіны цяжарныя дрэў,
Замерзлі на соснах іглінкі,
Птушыны нідзе не пачуецца спеў,
Бясшумныя кружаць сняжынкі.
А вецер чуць дрэўца якое кране,
Снег звіхрыцца белым узрывам,—
І ўзнімуцца вецці і дрэўца ўздыхне,
Як грудзі людскія,— шчасліва.
Паўзе паміж лесу махнаты канёк
І сані з ахапкам саломы;
Засыпаны снегам, як чорны пянёк,
Дзед едзе адкульсьці дадому.
Між волатаў-дрэў, праз снежны навес,
Маленькімі сані здаюцца...
Дрымотна стаіць знерухомеўшы лес,
А ўкола — сняжынкі снуюцца.

*1945 г.*

# ДЗЯЦЕЛ

Залатою у сонцы здалася сасна,
Скуль вазьміся,— і дзяцел тут шэры.
У халаце — як доктар... Павадка адна,
І нямілыя вельмі манеры.
Дзюбай стукае, крывіцца, важна глядзіць,
А не чуе, што дрэўцу балюча.
Юра крыкнуў паціху: — Эй, далей ляці!
Што дзяўбеш? Нашто дрэўца ты мучыш? —
Дзяцел глянуў на Юру: — Не знаеш мяне,
Палячыць мне сасонку патрэбна.—
Дзюбу ўзняў, як сякеру, і — зноў па сасне,
Толькі гул раздаецца пад небам.
Юра ручкі зламыў, аж звініць галасок:
— Доктар-дзяцел! Сасонка здарова...
Бачыш, спелая шышка ляціць на пясок,
Аж жывіцай запахла дуброва.
Дык нашто ты калечыш? Навошта дзяўбеш?
Доктар-дзяцел, ты толькі паслухай...—
Дзяцел кінуў сярдзіта: — Калі падрасцеш,
Тады будзеш мець лепшае вуха.
Я вось чую: скрыгоча ў кары караед,
А ён дрэву, павер ты мне,— шкодны.
Я сасне памагу і здабуду абед,
Бо я зранку, як бачыш, галодны.

*1945 г.*

## ТАПОЛЯ

Дом стаяў Купалы пад таполяй гэтай,
Каля дому ружы у садку цвілі,
Тут гучалі песні нашага паэта
Аб шчаслівай долі роднае зямлі.
Тут складаў ён вершы, тут пісаў паэмы,
Тут свае ён творы слаўныя тварыў,
У душы паэта тут гучалі тэмы —
Так, як льецца ноччу пошум у бары.
Наляцела буры грозная навала,
Вораг дом спапеліў, знішчыў кветны сад...
Песняра-паэта паміж нас не стала,
Згінуў ён, як верны арміі салдат.
Тут цяпер ні хаты, ні садка... Нічога.
Цэгла. Сум таполі. І глухі пустыр...
Вецер шэры попел гоніць па разлогах...
Скора засвітае нам жаданы мір!
Мінск тады ў руінах больш ляжаць не будзе,
Тут будоўлі песні шчыра зазвіняць,
Светлую сталіцу зноў збудуюць людзі —
Дом Купалы новы будзе тут стаяць!

*1945 г.*



Прывітай сыноў сваіх, матуля!
Край ты наш любімы, край каханы...
Да грудзей тваіх мы сэрца тулім,
Мы залечым жудасныя раны.
Ты устанеш новай, прыгажэйшай,
Беларусь, сыноў здабыта кроўю...
Ты яшчэ нам стала даражэйшай,
Грудзі новай поўніш нам любоўю.
Мы увайшлі сягоння на святыя
Любае Радзімы нашай межы...
Сож тут край пясчаны хваляй мые,
Цёплы вецер вее з Белавежы,
Вып'ем мы празрыстае вадзіцы,
Мы напоўнім ёю нашы шлемы,
Аж у сэрца яна будзе ліцца,
Так — як з сэрца льецца верш паэмы.
Да зямлі мы ціснемся губамі,
Як сыны да маці — з прывітаннем...
Бо навекі звязана ты з намі,
З нашай доляй, з нашым існаваннем...
Йдзем мы ў нашы вёскі, нашы хаты
І пачнём нанова гаспадарыць.
Годзе ўспамінаць, ўздыхаць і марыць,
Што наш край быў да вайны багаты...
Кожнаму па здольнасці работа,
Хто за што — дружна, а з імпэтам,
Засявайце поле! Пройдзе лета —
Восень нас спаткае умалотам.
Адбудуем мы нанова вёскі,
І ў кожнай нашай новай хаце —
Назаўсёды расквітнее шчасце,
Не пральле ніхто ніводнай слёзкі.
Мы засучым рукавы да локцяў,
Хто тапор, хто лом, а хто лапату...
Рукі запрацуем да пазногцяў —
Ну, а край наш будзе зноў багаты!

*1946 г.*



Можа, нават не захочаш,
А згадаеш ты мяне,
Калі цёплы вецер вочы
Лёгкім подыхам кране.

Ці жаўронак заспявае,
Узляцеўшы над раллёй
У празрысты ранак мая,
Ты разгледзіш вобраз мой.

Нечакана я з'яўлюся
Вось такая, як цяпер,
Гляну ў вочы, засмяюся,—
Толькі смеху ты не вер,

Без цябе мне будзе сумна,
Дзе б я толькі не жыла,
Я ўсур'ёз, не легкадумна
Табе сэрца аддала.

Толькі доля не судзіла
Нам на свеце ў шчасці жыць...
Нам расстацца — хопіць сілы,
Сіл не хопіць — не любіць...

Не заліць забыцця водам
Сэрца вернага агонь
І тады — як пройдуць годы
І калі збялее скронь.

*1946 г.*

## 9 МАЯ 1945 ГОДА

Прыйшла перамога! Такога ніколі
Свет шчасця не ведаў. Як ветрык над полем,
Як дождж той над прагнаю, высахшай нівай,—
Быў сэнс таго слова бясконца шчаслівы...
Па грозных дарогах, праз дымныя далі
Ішлі мы і волю сваю адстаялі.
Як выказаць словам, што ў гэтыя хвілі
Мы ўсе адчувалі? Аб чым гаманілі?
Як біліся сэрцы пачуццем гарачым?
І ўсё выглядаць раптам стала іначай,
І свет паказаўся ў той час харашэйшы,
І знікла туга, і ад сонца яснейшы
У чырвані, ў ззянні йшоў Дзень Перамогі...
Не! Шчасця ніхто з нас не ведаў такога!

. . . . . . . . . . . . . . . .

Я стаяла ля акна маўкліва,
Не магла я вымавіць ні слова,
Аганькі наўкол плылі імкліва,
Чуліся вясёлыя размовы.
Гэта людзі ўставалі ўночы,
Гэта людзі шчасна гаманілі...
Слёзы шчасця арасілі вочы,
Але сэрца сціснуў боль на хвілю.
Ўспамінала тых я, што ніколі
Не прыйдуць з паходу к нам дахаты,
Што за шчасны лёс, за нашу долю
Паляглі на полі, як салдаты.
Мо і я не раз апошні плачу,
Бо і мне ўжо не судзіла доля
Блізкіх, дарагіх маіх убачыць:
Муж спіць там, дзе Дон шуміць на волі.
Хай боль гэты ў радасці затоне
Усясветнай — хоць бы на сягоння!

. . . . . . . . . . . . . . . .

Я хачу з людскім патокам зліцца
І іду па вуліцы сталіцы.
Дзень яшчэ чуць сонейка заняўся,
А народу колькі навакола!
Тут дзявочы звонкі смех раздаўся,
Яму ўторыць смех мужчын вясёлы.

А народ, святочна прыадзеты,
Залівае вуліцы і плошчы.
Сонейка устала па-над светам,
Бляску воч людскіх яно зайздросціць.
Свеціцца Масква. Гараць штандары.
Зелень, кветкі, музыка і песні.
Здзейсніліся сёння нашы мары,
А жыццё усе надзеі здзейсніць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сягоння Масква майскім сонцам сагрэта,
Пранізана шчасцем, ірдзіцца і ззяе.
Як радасна бачыць праменнасць мне гэту,
Што сэрца Масквы да краёў налівае!
Я помню Маскву сорак першага года,
Паўзмрочнасць падвалаў, фашыстаў налёты,
І громы гармат, што ляцелі з заходу,
І грукат зенітак, і гул кулямётаў.
Снег слаўся на вокнах сярэбранай ватай,
Мароз данімаў у нятопленым доме,
І провад без току, ад снегу махнаты,
Вісеў на замшэлых слупах нерухома.
Год новы я помню — і ёлку у хаце,
І свечкі на ёлцы, і іней халодны...
Стаяла прад намі яна ў светлай шаце,
Як быццам у лесе зімою лагоднай...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Масква! Сталіца! Калыска славы!
О, як жа сёння ты ўся прыгожа!
О горад — сэрца нашай дзяржавы,
І хто ж з табою зраўняцца можа?

*1946 г.*



Ты адна для нас, любімая Радзіма,
Ты адна такая на шырокім свеце.
Ходзяць бліскавіцы з громам, бурай,
дымам,—
Ты ж спакойнай зоркай цераз хмары свеціш,
Ты адна, што дорыш шчасце і надзею,
Не баішся буры, цемры і напасці...
Сонечны твой воблік на ўвесь свет яснее,
Для ўсяго ён свету — праўда, мір і шчасце.

*1946 г.*



Сонца заззяла, ўстаў горад наш мілы,
Поўны рабочага, творчага шуму.
Трубы на ўскраінах дзесь задымілі,—
Хмаркі нясуцца, як лёгкія думы.
Людзі на працы ад самага рання.
Шпарка растуць ля руін рыштаванні.
Дом устае на зруйнованым пляцы,
Стройныя лініі новай будовы
Нам нагадаюць былыя палацы,
Толькі ўзлёт іх імклівы і новы.
Хто будзе жыць тут у гэтых кватэрах?
Хто ў нас харомы такія заселіць?
Дзеці чые будуць бегаць па скверах?
Як і між кім гэта шчасце падзеляць?
Той, хто муруе прыгожы дом гэты,
Той, хто пасадзіць сады каля хаты,
Будзе зімою цяплом іх сагрэты,
Будзе іх ценем у спёку абняты.

*1946 г.*



Вось учора і сягоння
Незвычайнай нейкай з'явай
Мне у сэрца песня звоніць,
Што ідзе мой дзень яскравы.
Што ідзе ён, шчасця поўны,
Поўны гордага імпэту,
Па шляху шырокім, роўным,
Па квяцістых далях лета.
Я не ведаю, як доўга
Будзе мара сэрца раніць,
Днём чакання залатога
Турбаваць да хвалявання.
Толькі ведаю,— чакаю
Я праяў зусім нязвычных
Ад квітучых красак маю,
Што гараць успыхам знічак.
І цяпер я не гадаю,
Спадзявацца мне ці варта,—
Веру моцна ў сонца маю
І у шчасце веру ўпарта.

*1946 г.*

## БЕЛАРУСЬ

Агністымі успыхамі
Гараць зарніцы белыя.
Жытнёвымі уздыхамі
Плывуць палеткі спелыя.
Зямля мая далёкая,
Зямля мая цудоўная,
Радзіма сінявокая,
Каму красой ты роўная?
Мо ёсць і прыгажэйшыя,
Каму што ў свеце глянецца.
Мая ж найдаражэйшаю
Да смерці мне астанецца.

*1946 г.*

# МАЛАДОСЦЬ

Дарагі ты ў жыцці нашым госць,
Залатая пара — маладосць.
Ўсе мы помнім час радасны гэты,
Калі сэрца натхненнем гарыць,
Калі сіла у жылах бурліць
І не ўсе яшчэ песні прапеты.
Усё, што ў свеце найлепшага ёсць,
У табе гэта ёсць — маладосць.
Помню ўзлёты дум светлых і чыстых
І імкненні гарачай душы,
Прага ведаў і прага спяшыць
Да крыніцы пазнання празрыстай.
А цяпер — ўсе багацці свае
Маладосці душа аддае,
Вопыт наш даць патомкам мы рады.
Ўсе вялікія продкаў удары —
Ты ідзі і ўсім сэрцам бяры,
Наш шчаслівы, багаты нашчадак.

*1946 г.*

## ХОДЗІЦЬ МЕСЯЦ

Ходзіць месяц угары,
Шум знямогся у бары,
Пасядзім хвіліну ціха,
Ты са мной не гавары.
Зоры палі на ваду,
Промні ясныя прадуць,
А спакою свайму сэрцу
Аніяк я не знайду.
Паў ад дрэва чорны цень,
Хвалі гушкае ячмень...
Мне ўспаміны сэрца раняць
Сваім болем цэлы дзень.
Вечар сінюю смугу
Рассцілае на лагу.
Я забыць яго, мой дружа,
І хацела б — не магу!
Не спыніць нам цёмных хваль,
Што плывуць кудысьці ўдаль,
Як жа думаць мне аб шчасці,
Калі сэрца сціснуў жаль?
Быццам хвалі, йдуць гады,
Нікнуць даўняга сляды,
Толькі ён ў вачах заўсёды,—
Што не вернецца сюды.
Ходзіць месяц угары,
Шум знямогся у бары,
Ну, а ты мне аб каханні
Лепш зусім не гавары.

*1946 г.*

* * *

Гоніць вецер хмаркі ў сінім акіяне,
Мкнуць яны на захад, нібы стада птах.
То замгліцца сонца, то вясёла гляне
І рассцеле долу залацісты шлях.

Шчасце атуляе маладыя пары,
Ноч нясе спачынак, асалоду сна...
Гоніць, гоніць вецер стомленыя хмары,
Толькі я сягоння буду зноў адна!

*1946 г.*



Маё шчасце міма толькі што прайшло,
Закрануўшы сэрца залатым крылом...
Сэрца сцялі болем сум, туга і жаль.
Прамільгнула шчасце незваротна ўдаль.

Ці ж калі на свеце гэтак дзе было,
Каб дарогай шчасце міма сэрца йшло?
Даганяць? Дарэмна! Крыллямі ўзмахне,
Праляціць яшчэ раз міма ля мяне.

Сумна-сумна стала. Шлях ахутаў мрок.
А ісці — патрэбна!
Ну, за крокам крок.
І прывыкнуць вочы, і прывыкнеш ты —
І не будзе страшна гэтай цемнаты.

Мо засвецяць зоры на тваім пуці
І без шчасця можна праз жыццё прайсці?
А яно? Вось міма толькі што прайшло,
Зачапіўшы сэрца залатым крылом...

*1946 г.*



Радзіма! Ты любай была мне да болю,
Радзіма! Цудоўны мой яблынны цвет...
Мне бачны лясы твае, бачна мне поле,
Дзе ўціснуты першы дзіцячы мой след.
Убачу народ — непахісны ў змаганні,
І роднага неба блакітны прастор,
І ясныя зоры — вясной, на світанні,
І ціхія гладзі люстраных азёр.
Я еду дамоў! Не ў госці, да часу,
Я еду ўзняць, аднавіць гарады,
Засеяць палі неабсяжных калгасаў
І міру навечна адзначыць сляды.
Засеем палі і сады зноў насадзім,
Радзіма, ты ўстанеш у новай красе!
Табе мы ў працы ніколі не здрадзім,
Навекі з табою мы звязаны ўсе!

*1946 г.*



Не раз у нас думы
Сняваліся з сумам
І песні гучалі праз слёзы,
Калі над кастрамі
Сівымі начамі
Палонныя ніклі бярозы.
Жылі мы у лесе,
Ён — вецці навесіў,
Замершы на варце трывожнай,
Аднекуль здалёку
Лез скрогат і рокат
Машын на накатах дарожных.
Забухалі зычна
Ў цішы непрывычнай
Узрываў зыбучыя цені,
А крыллі пажару
Лунналі пад хмары
Скрозь чырвань сасновых бярвенняў.
Ў глыбокае ночы,
Калі патароча
Мрок густа навесіў да долу,
Ішлі партызаны
З вінтоўкай, наганам,
Пакункам грымотнага толу.
Варожыя доты
Мы рвалі з налёту,
Чыгунку і склады ўзрывалі,
І, як навальніца,
Мы неслі чужынцам
Смерць — з лесу таёмнае далі.
Мы нішчылі сілу,
Што край паланіла,
Спадаючы раптам, як хмара,
І ноччу не спіцца
Праклятым чужынцам,
Ім мроіцца страшная кара.
З працоўнае масы —
З заводаў, з калгасаў

У лесе збіраліся людзі,
За край свой каханы —
Ішлі ў партызаны...
Было так...
Заўсёды так будзе.

*1946 г.*



Месяц хмары арэ залацістым нарогам,
Цераз шэрыя скібы праслізнуўся востры.
А дзве зоркі смяюцца — малыя — з старога,
Яснакосыя, шустрыя зорачкі-сёстры.
Беларусь! П'яным водарам травы наліты,
Гай ківае прыветна чубатай вяршыняй,
І плыве і плыве неулоўнае жыта
Па шырокіх калгасных прасторах краіны.
Я іду...
А дарога у змроку бялее
І віецца між ніў, распасцёртых бязмежна.
Дзіўна соладка сэрцу: збыліся надзеі —
Я ізноў на Радзіме маёй незалежнай.
Я ізноў — у свабоднай маёй Беларусі,
Зноў хвалююць мяне тут і гукі і пахі.
Не зламалі яе ў паднявольным прымусе,
І свабодна ідзе яна радасным шляхам.

*1946 г.*

* * *

У вырай далёкі лятуць журавлі
Ад любай, утульнай бацькоўскай зямлі,
Лятуць, а за імі спяшаюць мяцелі,
А то б на чужыну яны не ляцелі...

Ты чуеш тужлівы, падвоблачны крык,
Важак да далёкіх палётаў прывык,
Вядзе ён трыкутнік увесь за сабою,
Напоўніўшы даль развітальнай журбою.

Схаваліся жабы — ніводнай няма,
Вужак гэтаксама схавае зіма.
Куды ні павернешся — некуды дзецца.
А то б не ляцелі нікуды, здаецца.

Лятуць... А я ціха на ўзбоччы стаю —
І думаю сумную думку маю:
Вось так жа і мне вылятаць давялося,
Калі ў родным краі нам цяжка жылося.

Як сэрца балела! Як плакала я!
Была нас вялікая ў бацькі сям'я,
І часта мы, дзеці, сядзелі без хлеба,
Гняздо нам, як птушкам, кідаць было трэба...

Мінула пара — зарунела вясна,
Снягі і ільды растапіла яна.
І гоман птушыны калыша ўзлессі —
Вяртаецца вырай і я — звонкай песняй.

*1946 г.*

## ПАРТЫЗАНКА АЛЕСЯ

Тут, у гэтым вось зялёным лесе,
Камсамольцы нашы штаб трымалі.
Партызанка ў ім была — Алеся,
Першая у самай труднай справе.
І яе адну не раз, бывала,
Слалі партызаны у разведку...
Вораг хітрасці сплятаў нямала,
Але ён запутваў яе рэдка.
Быццам шапку-невідзімку мела
Смелая, адважная дзяўчына.
І дайсці яна усюды ўмела,
І была ўсяму ў яе прычына;
То ў яе хварэла дзесьці цёця,
То пад ноч адбілася авечка,
То вуцяты згінулі ў балоце,
То гусяты уцяклі на рэчку...
І здаецца ўсім такой прастушкай,
Што й да трох яна злічыць не можа.
А сама — навострыць вочы, вушкі,
Адпраўляецца у стан варожы...
Вось ідзе яна. Шуміць пацiху
Лес стары; сучок часамі трэсне...
— Накаціла на Радзіму ліха,—
Разважае дзеўчына балесна...
Рассцілаецца за лесам поле,
Плюскае пацiху ў логу рэчка.
Промні сонца — проста ў вочы колюць,
Залiваюць, залатыя, сцежку.
Дзеўчына ідзе...
Навокал пуста,
Нейк навокал вельмі страшна ціха...
Гнецца траўка пад нагою з хрустам,
І раса гарыць трывожным ўспыхам.
На Алесі — світка-саматканка,
На нагах — старэнькія барлячы,
Глянеш — дык ідзе жанчына зранку
За жывёлінай сваёй, няйначай...
Грукнула пацiху у акенца
У апошняй хаце, да бабулі.
І чаго ж так гулка б'ецца сэрца?

Што ж так ціха? Можа, ўсе заснулі?..
Адчыняе дзверы...
На падлозе
Ляжыць бабка, пры ёй — дзетак двое.
І дрыжыць Алеся у трывозе:
— Ды што ж гэта робіцца такое!
Лужа нацякла аж да парога,
Ліпкая, чырвоная, густая...
Бараніла, знаць, дзяцей нябога
І цяпер іх моцна абнімае.
А бабулі прынясла Алеся
Новы шыфр для гэтай перапіскі...
Як сказаць ёй, што яе у лесе
Упісалі ў ганаровы спісак?
Ў бор ідзе Алеся, ног не чуе,
Цісне стома маладыя грудзі:
— Доўга ж нам цярпець бяду такую?
Доўга гад над намі панам будзе?!
Зафырчэла на шашы машына:
— Едуць, валацугі, забіякі...
Залягла ў глыбокай каляіне,
Дастае гранату для атакі.
Прытаілася...
Машына едзе
Легкавая, поўная вайсковых.
— Толькі б хто да часу не дагледзеў
Месца майго патайнога схову!..
Блізка, блізка ўжо...
І вось Алеся,
Як у школе, за даўнейшых часаў,
Кідае гранату...
І у лесе
Разляглося тысяча раскатаў,
Аглушыла, дзіка тузанула,
Блiснула вужакамі-агнямі...
Толькі ў ночы — праз туман — пачула,
Што плыве яна па-над палямі...
Неслі яе хлопцы, усю ў павязках,
Рваўся ціхі енк з грудзей дзяўчыны...
А ля дрэваў зіхацелі каскі
І валяліся кускі машыны.

. . . . . . . . . . . . . .

Чайка белая у паднябессі

Лётае і квола, квола квіліць...
Пахавалі юнакі Алесю
Пад курганам гэтым — у магіле.
Шалясціць у дрэвах вецер ціхі,
Хіляцца галіны з пераборам...
Адарваўся жоўты ліст з успыхам
І удаль скаціўся па разорах.
Ў паднябессі —
белай чайкі гукі,
А курган узняўся над далінай...
І дзяўчаты, ўзяўшыся за рукі,
Тут ішлі той самай каляінай
І спявалі песні аб свабодзе,
Аб шчаслівай вольнай нашай долі,
Аб героях нашых, аб народзе,
Што рабом не зробіцца ніколі,
Што з баямі вырваў перамогу,
Цераз боль і смерць, праз жах і мукі...
Йшлі дзяўчаты гэтаю дарогай,
Радасна узяўшыся за рукі.

*1946 г.*



Калі гора грудзі сцісне
І слязьмі напоўніць вочы,
Калі хмара нізка звісне,
Сплыць з вятрамі не захоча,—
Не чакай, пакуль разгоніць
Хмары моцны, бурны вецер!
Хто смялей шляхі бароніць,
Той лягчэй ідзе па свеце.
Дык змагайся ты за долю
Для сябе і для народа,
Расквітнела каб на волі
Наша доля і свабода,
Каб захопнікаў праклятых
След засыпаў буйны вецер,
На будове ж дзён багатых
Будзь мастак найлепшы ў свеце.

*1946 г.*

* * *

Заспявайце песню!
З даўніх пор
Кажуць: праца спорыцца пры песні.
Дом будуем новы, хай жа ён
Мары аб жыцці шчаслівым здзейсніць.
Сонца кіне ў шыбы промняў сноп,
Загарацца вокны ясным бляскам.
Выйдзем мы з зямлянак і трушчоб.
Дом нас светлаю спаткае ласкай.
Заспявайце песню, хай ямчэй
На будове спорыцца работа.
Хай расце ён,— радасць для вачэй,—
Сонечнай залiты пазалотай.
Выведзеш дзяцей з падземных стрэх
І ўвядзеш ў пакояў новых ззянне;
Абзавецца шчасны, звонкі смех,
І з вачэй дзіцячых ён прагляне.
Ганак скрыпне ветла...
                                        А з акон
Будуць ліцца сонечныя блікі.
Дом расчыніць дзверы з дзвюх старон
У гасціннасці сваёй вялікай.
Ён рассцелецца святлом падлог
І запахне чыстым пахам смольным,
Каб усякі з нас ізноў тут змог
Бачыць быт шчаслівы і прывольны.
Дык спявайце ж песні!
                                        Як нідзе,
Трэба нам, каб спорылася праца.
За жыццё, за дабрабыт дзяцей
Мы гатовы з сіл усіх змагацца.

*1946 г.*



Вярнуліся з франтоў байцы,— з агню і дыму,—
Яшчэ ў вачах не знік трывожны след вайны.
Любоўна, радасна вітае іх Радзіма,—
На адбудовы фронт ідуць усе яны.
У цяжкі гэты час, калі падбіты ногі,
Заные цела ўсё, і стома ахіне,—
Аркестр зайграе марш...
І зазвіняць разлогі,
І сілы новыя штось ў сэрца удыхне.
І жыць захочацца,
на сонца ранкам выйсці,
Забыць пра цяжкі баявы паход,
Даць мускулам спачыць,
даць адпачынак мыслі,—
Вярнуць жыццё за пяць ваенных год.
А шчасце — то ж не сон!
Народнай вынік працы!
Гарачы, агнявы, напружаны уздым!
І рукі ёсць у нас, і сіла, каб змагацца,
Мы перамогу й тут здабудзем, адстаім...
Гудзіце ж навакол нам, перамогі маршы,
Мы выступаем зноў ў працоўны наш
паход,
У бой за новы ўздым на фронце гаспадарчым.
Да новых перамог, вялікі мой народ!

*1946 г.*

* * *

Па шашы густа йдуць машыны.
Шорах глушыць матораў гул,
То на асфальце шапочуць шыны.
Па шашы густа йдуць машыны,
Кідаюць бляскі ўпартых скул.

Сумуюць рукі па працы спорнай.
І на свабоднай сваёй зямлі,
Забыўшы скруху навалы чорнай,
Краіне гордай і непакорнай
Машыны ў працы дапамаглі.

*1946 г.*



З гэтай стромкай сасонкі,
Што смалісты пах роніць,
Дошак тоўстых і тонкіх
Напілуем сягоння.
Згоніць востры фуганак
З нашых дошак шурпатасць,
Будзе сонечны ганак
І падлога для хаты.
Вось тады ужо — шчасце
Асталюецца ў хаце,
Назаўсёды аддасць нам
Песні ўсе і багацце.
Будзем жыць мы шчасліва,
Будзем жыць мы багата,
Напілуем мы жыва
Роўных дошак на хату!

*1946 г.*

## ВЯСНОЙ

Выйдзі раніцай у поле —
жаўры песні там спяваюць,
Плуг шырокі адкідае масляністы чорны вал;
Трактарыст, як той асілак,
з маладой, упартай сілай
Уздымае шыр палеткаў
аж да хмар — навіслых скал.
А яны, як горы, ўсталі,
наслаіліся шырока,
Пагражаючы абвалам,
звіслі каменнай сцяной.
Асвяцілі іх праменні,
пранізаўшы зверху, збоку,
І зайграла ў іх вясёлка
над зямлёю веснавой.
Па абшары трактар ходзіць,
трактарыст спявае песню,
Жаўры звоняць у блакіце,
цягне водарам з раллі.
Глянь наўкола!
Гэта ж, дружа, наша роднае Палессе
Кадзіць пахам урадлівай,
плугам ўзвіхранай зямлі.

*1946 г.*



Яшчэ не ўсе з руін узняты гарады,
Яшчэ з-пад попелу не ўсе паўсталі сёлы,
Хаця вясной квітнеюць нам сады
І птушак чуецца напеў вясёлы.
Ды трэба нам ісці да новых перамог!
Узважыць цяжкасці усе на ўласных плечах.
Круты пад'ём! Але няма другіх дарог,
І новы дзень ідзе нам насустрэчу.
Хай не палохаюць нас жахам перашкод,
Мы ў сілуураслі, і нас ніпто не зломіць!
Не будзем мы скрыпець, як дрэва у надломе,
Альбо марнець без сіл, нібы намокшы сноп!
Шмат цяжкасці было... Мы ўсё перамаглі.
Нас гартаваў агонь ваеннае навукі.
Дык жа не зложым мы спакойна нашы рукі,
Калі так многа працы на зямлі!

*1946 г.*



У палях блізка слоце канец:
Зімка ляжа пярынаю снежнай,
Статак белых, пярнастых авец
Віхр пагоніць па небе бязмежным.
А сасонку у шкло апране
Снежань звонкі і белабароды,
І чуць ветрык галінку кране,—
Зазвініць яна ў пацерках лёду.
Прыйдзе час. Сонца гляне цяплей
І растопіць лядовыя глыбы,
У празрыстых азёрах, бы ў шкле,
Замільгаюць срабрыстыя рыбы.
Абляціць пухавы агняцвет
Вербяныя чырвоныя лозы,
І, на ўвесь на абвеснены свет,
Разальюць пах свой п'яны бярозы.
Першы гром лог, папар страсяне,
Дзверы травам да сонца адчыніць.
Аб зялёнай пахучай вясне
Заклякоча бацян над лагчынай.
Паплывуць чарадой дзень за днём
Цераз ясныя неба блакіты,
І пад сонечным, цёплым святлом
Ускалосіцца буйнае жыта.
Час настане і жаць і касіць,
Лета дзень — корміць месяцы года:
Будзем дружна у працы спяшыць,
Каб мацнела багацце народа.
Каб раслі мы у сілу, як бор.
Каб, як звон, наша слава гучала!..
Будзе пахнуць мядовы чабор
На паўднёвых, салодкіх прывалах.

*1946 г.*



Ў поўдзень ад вёскі вясёлай гурбой
Выбеглі дзеўкі на рэчку купацца.
Хлопцаў яны прывялі за сабой
У перарыў сенакоснае працы.
Пырскі ляцелі ад плюскату цел
Смуглых, імклівых, жывых і вясёлых;
Плёс заіграў, зашумеў, і запеў,
І закружыўся у шумнае кола.
Лёгка удалі дрыжала вада,
У вочы сінь неба глядзела глыбока,
Срэбных аблокаў устала града
На краявідзе далёка...

*1946 г.*



Пыл узняўся на дарозе,
закруціўся слупам шэрым,
Перагнуўся,
разламаўся
і панёсся на пустыр...
Вербы, лозы і бярозы
ўсё шумяць, шумяць без меры,
Гнуць вяршыні, быццам хочуць
прытуліцца да зямлі.
А з-за лесу едзе хмара...
Падымаецца гарою.
Чорнай. Грознай. Навальнічнай...
Лес гамоніць, шапаціць,
Неспакойны і трывожны
віхр рыхтуецца да бою:
Вось сарвецца,
вось закруціць,
панясецца, загудзіць...
А на лузе — каля стога —
завіхаюцца дзяўчаты.
Пот гарачы росіць вочы,
шчок пламеніцца пажар.
Стог расце, расце ўсё вышай,
нібы ў неба ўбіцца хоча,
Покуль дождж пальецца густа
з навальнічных чорных хмар.
Вецер вырваў клок з навою,
пакаціў па сенажаці...
Зашумеў над стогам раптам
ледзяны, халодны вір,—
Лозы гнуцца,
плачуць лозы
над балотнай траскай гаццю,
Падхапіўся пыл з дарогі
і расплыўся удалі...
Піск і гоман...
Стог высокі...
А маланкі ніжуць неба,

Град танцуе танец белы,
колькі грацыі у ім!
А дзяўчаты прызацiхлі,
закапаліся у сена,
Толькі шчокі — жар гарачы,
толькі вочы — як агні.

*1946 г.*

* * *

Сёння дзень устаў такі багаты,
Ўвесь убраны ў павуціння шаты!..
І плывуць-плывуць у промнях сонца
Шаўкавістых нітак валаконцы.
Быццам тэлеграф, ад траўкі к траўцы
Іх вятры наўкола расцягнулі,
Кропелькі на нітках, як на лаўцы,
Пасядалі побач і заснулі...
У паветры — цеплыня і ціша,
Ветрык нават нітак не калыша.
Лес увесь у жоўтай пазалоце
Шалясціць асеннім ціхім тонам.
Апрануўся у парад чырвоны
Клён, нібы не па сваёй ахвоце,
Нібы восень ў гэты чысты ранак
Да яго прыйшла неспадзявана.
Ліпы суха шалясцяць лістамі,
Ім бярозкі ўтораць шэптам ціхім:
«Ой, ідзе, ой, надыходзіць ліха —
Белая зіма ды з маразамі.
Прыйдзе сцюжа, сцюжа, сцюжа, сцюжа,
Наша лісце паўкідае ў лужы...»
К небу ўзняты тонкія былінкі
Каласкоў: яны цяпер пустыя.
Кветкі пазгіналі нізка шыі,
А на іх павіслі павуцінкі,
І яны засохлі і счарнелі
І нібы ніколі не квітнелі.
Не сумуйце ж, ліпы, вербы, клёны,
Закрасуеце яшчэ нанова.
Ападуць лісты,
Каб зноў зялёны
Вы вясной убор адзелі новы.
Не навек жа будзе зімка тая
З лёдам, снегам, сцюжай і марозам,
Пралятуць дзянькі, як птушак стая,
Зашумяць зноў радасна бярозы.
Дзе жыццё— і смерць там быць павінна,
Змена йдзе на свеце несупынна.

Гаснуць зоры.
А на небе дальнім
Не убачыш ты пустога месца:
Новыя агні там запалалі,
І да нас прамень іх данясецца.
Сонейка за лес зайшло учора,
Сёння ўзыдзе зноў над лесам скора.

*1946 г.*

## ПЕСНЯ

*Янку Купалу*

Расплываецца шырока
Веснавое песні кола,
Зачапілася за дрэва,
Па-над лесам паплыло.
Адгукнулася ёй рэха
Гулам звонкім і вясёлым
І назад чароўным спевам
Адгалоскі прынясло.
Я сальюся сваёй думкай
З хваляй той раскалыханай.
Хай мяне туды закіне,
Дзе сінеюць тоні вод.
На пляцы шырокім неба
Сіні вечар паліць іскры,
І таемна асвячае
Ён імклівы наш палёт.
Хваля гулкая нясецца
І напеўнасцю калыша
І чароўнасцю хвалюе
Непаўторнаю яна.
Толькі плыць бы так бясконца,
І не знаць дрымотнай цішы,
І гучаць у дзіўным спеве,
Як напятая струна...

*1946 г.*

